# наша СВАБОДА

№40(267) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДУ

12 КРАСАВІКА 2002 году ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 2100-253, факс 2100-254

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ


## Гімн не названы

9 красавіка адбылося паседжанне Дзяржаўнай камісіі па конкурсе на прыняцце гімну Беларусі, якое ўяўляла сабой другі тур гэтага конкурсу. Вядомыя дзеячы культуры і чыноўнікі, што ўваходзяць у камісію, выслухалі ў выкананні Акадэмічнага хору нацыянальнай тэлерадыёкампаніі і ўзорна-паказальнага аркестру Узброеных Сіл чатыры варыянты гімну, упадабаныя імі пасля першага тура: гэта «Радзіма мая дарагая!» на музыку Уладзіміра Алоўнікава і верш Алеся Бачылы, «Красуй, Беларусь!» Васіля Раінчыка і Леаніда Пранчака, а таксама музыку старога бэсэсэраўскага гімну на два тэксты – Уладзіміра Карызны і Зміцера Марозава.

Аднак песня-пераможца, як тое планавалася, названая ў гэты дзень не была. Сябры гімнавай камісіі вырашылі сабрацца яшчэ раз напрыканцы красавіка. А дагэтуль кампазіцыі, што прэтэндуюць на тое, каб стаць гімнам краіны, будуць запісаныя студыйна. Праз два тыдні запісы праслухае камісія. А, можа быць, і мы з вамі па радыё і тэлебачанні. У другой частцы другога тура, хутчэй за ўсё, будуць разглядацца ўжо не чатыры, а тры варыянты. На музыку Нестара Сакалоўскага мусіць застацца адзін тэкст.

**Кірэй МАНУЙЛА**

Удакладненне: у мінулым нумары НАШАЙ СВАБОДЫ ў матэрыяле «Журналісты на лаве падсудных» была дапушчаная недакладнасць. Насамрэч газета не змяшчала на сваім сайце ў інтэрнэце матэрыялаў з канфіскаванага накладу №36 за мінулы год.

# Журналісты – не злачынцы...




*9 красавіка каля Ленінскага раённага суду г.Гродна сабралася шмат людзей. Прыехала мноства журналістаў, у тым ліку замежных. У судовай зале з'явіліся галоўны рэдактар газеты «Пагоня» Мікола Маркевіч і журналіст Павел Мажэйка. Яны былі ў майках з надпісам «Я – журналіст, а не злачынца». Прысутныя радасна віталі іх.*

Судовая заля разлічаная на 80 гледачоў. Прысутнічала прынамсі ўдвая болей людзей, шмат каму давялося стаяць. Судовае паседжанне ніяк не пачыналася. У рэшце рэшт з'явілася сакратарка і абвясціла, што суд адкладаецца, паколькі захварэў суддзя. Публіка сустрэла паведамленне з энтузіязмам. Цяпер павінны прызначыць новага суддзю, яму спатрэбіцца пэўны час, каб азнаёміцца з матэрыяламі крымінальнай справы, потым ён прызначыць дату пачатку працэсу. Гэта можа адбыцца да канца месяца.

З суду сабраныя накіраваліся да Ленінскага РАУС. Адтуль павінны былі выпусціць Алеся Дварэцкава, які атрымаў 4 сутак арышту за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі ў падтрымку журналістаў «Пагоні». Каля міліцыі сабралася некалькі дзесяткаў чалавек. Тады міліцыянты ва ўнутраным двары прымусам пасадзілі А.Дварэцкава ў машыну і завезлі дахаты. Ён толькі здолеў памахаць публіцы рукой.

*Заканчэнне на стар.3*

## ВЕСТКІ



Фота Ул.ШЛАПАКА

## У Брэсце саджаюць АМАПаўцаў...

Пракуратура Брэсцкай вобласці вынесла пастанову аб арышце двух супрацоўнікаў брэсцкага АМАПу. Паводле звестак БелаПАНу, яны былі затрыманы 3 красавіка па заяве пацярпелага жыхара Брэсту і ўвесь гэты час знаходзіліся ў ізалятары часовага ўтрымання. Міліцыянеры падазраюцца ў вымаганні і незаконным заўладанні грашовымі сродкамі.

## ... і мытнікаў

Супрацоўнікамі ўпраўлення па Брэсцкай вобласці камітэту па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС затрыманы двое інспектараў мытняў. Інспектар мытнага паста «Задворцы» (мытня «Заходні Буг») абвінавачваецца ў перавышэнні службовых паўнамоцтваў – ён наўмысна запісаў у бланку дазволу на ўвоз на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь лічбу адыходаў звыш фактычнай колькасці. У выніку кантрабанды 30 шын да грузавых аўтамабіляў дзяржава недаатрымала пошліну на суму 4 мільёны рублёў. Інспектар мытнага пераходу «Махро» (Пінская мытня) абвінавачваецца ў атрыманні хабару. Супрацоўнікі міліцыі затрымалі аўтамабіль «Фольксваген-Транспарцёр», у якім знаходзілася 2 тоны тканін коштам 5 тысяч даляраў ЗША. Высветлілася, што індывідуальны прадпрымальнік даў мытніку хабар у суме 200 даляраў ЗША, за што апошні вызваліў яго ад выплаты мытнай пошліны.

## «Оскар» у Мінску

13 красавіка ў мінскіх кінатэатрах «Масква», «Кастрычнік», «Аўрора», «Бярэсце» і «Мір» пачнецца паказ фільмаў-пераможцаў і намінантаў прэміі «Оскар» Амерыканскай кінаакадэміі па выніках 2002 году: «Гульні розуму», «Атака Чорнага ястраба», «Алі», «Кэйт і Леа», «Вар'яцтва кахання».

Многія карціны, якія вылучаліся на атрыманне прэміі «Оскар», ужо знаёмыя беларускім гледачам – у кінатэатрах дэманстраваліся стужкі «Уладар пярсцёнкаў. Братэрства пярсцёнка», «Ванільнае неба», «Мулен руж» і іншыя. А карціны «Айрс» і «У спальні», адзначаныя прэстыжнай узнагародай, пракатчыкі вырашылі не купляць, паколькі, на іх думку, шырокага гледача яны «наўрад ці збяруць». Білеты каштуюць да 3 тыс. рублёў.

## Кампенсацыя назіральніку

8 красавіка 2002 году суд Маскоўскага раёну Брэсту пастанавіў спагнаць з былой старшыні выбарчай камісіі выбарчага ўчастку №25 Усходняй акругі №3 Л.Мажайскай і з яе намесніка Л.Кунях па 100.000 рублёў маральнай кампенсацыі на карысць назіральніка Р.Варвашэвіча.

15 сакавіка 2001 г. падчас выбараў у Палату прадстаўнікоў незалежны назіральнік ад ПЦ «Вясна» Р.Варвашэвіч заўважыў грубае парушэнне Выбарчага кодэксу Беларусі, пра што і паведаміў старшыні выбарчай камісіі. Аднак яна склала заяву на назіральніка ў акруговую камісію, і на яе падставе Р.Варвашэвіч быў падвергнуты міліцэйскаму пераследу і абразам. У судзе Л.Мажайская сказала: «*Заявление, которое я написала, мне было продиктовано майором милиции*».

**Ірына СТАРЦАВА**

## ІНІЦЫЯТЫВА ЗНІЗУ




Незвычайная мемарыяльная дошка вісіць каля прахадной мінскага заводу «Прамсувязь». Невядомы творца ўвасобіў у пазалочаным каваным металу пашану да кіраўніка краіны. Відавочна, што за ўзор былі абраны мінскія напамінныя шыльды: «Тут у 1918 годзе адбылося паседжанне Савету народных дэпутатаў...» або «У гэтым будынку адбылося выступленне таварыша Калініна...». Адзінае адрозненне: усе згаданыя падзеі адбываліся даўно, і героі тых гранітных мемарыялаў даўно пакінулі наш свет. Беднасць Мінску на гістарычныя слаўтасці вымагае ад ініцыятыўных патрыётаў гораду пошуку новых формаў аздаблення будынкаў. Адной з такіх формаў можа стаць серыйнае выкананне мемарыяльных дошак і ганаровых дыпломаў у бронзе, якія б паведамлялі пра візіт кіраўніка дзяржавы і іншых выбітных асобаў на прадпрыемства, у калгас або нават у краму. Па няспраўджаных звестках, досведам «Прамсувязі» ўжо зацікавіліся некаторыя недзяржаўныя арганізацыі.

Падпісны індэкс НАШАЙ СВАБОДЫ 63478

# Літва заклапочаная сітуацыяй у Беларусі

*У сераду ў літоўскім Сейме адбыліся слуханні па правах чалавека ў Беларусі. Гэтая праблематыка вельмі зацікавіла парламентарыяў суседняй краіны, і яны збіраюцца вярнуцца да яе зноў.*

На слуханнях выступалі жонкі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў у Беларусі – Юлія Чыгір, Ірына Красоўская і Тацццяна Леановіч-Клімава. Раней яны звярталіся да літоўскага Сейму з адкрытым лістом і цяпер атрымалі магчымасць быць пачутымі.

З літоўскага боку слуханні ладзіла камісія па правах чалавека Сейму. Ад Беларусі арганізацыйнымі пытаннямі займалася Аб'яднаная грамадзянская партыя.

На слуханнях, якія доўжыліся больш за гадзіну і адбываліся ў Люстэркавай залі, прысутнічалі парламентарыі ад усіх дэпутацкіх фракцыяў: кансерватары, сацыял-дэмакраты, лібералы, сацыял-лібералы. Сярод іх былі кіраўнік фракцыі кансерватараў, былы кіраўнік краіны Вітаўтас Ландсбергіс, сябра фракцыі сацыял-лібералаў Вацлаў Станкевіч, старшыня літоўскай дэлегацыі ў Парламенцкай асамблеі Савету Еўропы Ёнас Чэкуоліс і інш. Вяла слуханні дэпутатка ад кансерватараў Раса Юкнявічэне.

Літоўскія парламентары праявілі сапраўдную цікавасць да звестак «з першых рук» пра тое, што насамрэч адбываецца ў Беларусі. Сапраўды, аповед пра «эскадроны смерці» і палітычна матываваныя прысуды рэзка кантрастуе з тым, што звычайна могуць паведаміць беларуская амбасада або МЗС.

Па выніках слуханняў было вырашана, што дэпутаты Сейму яшчэ неаднаразова вернуцца да беларускай праблематыкі. Літоўскія палітыкі адзначылі, што маюць недастаткова інфармацыі пра падзеі, што адбываюцца ў Беларусі.

На сустрэчы было падкрэслена, што слуханні па Беларусі будуць праведзеныя і падчас паседжання камітэту па юрыдычных пытаннях і правах чалавека Парламенцкай асамблеі Савету Еўропы, што адбудзецца 17 траўня ў Парыжы.

Пасля сустрэчы ў Сейме беларуская дэлегацыя правяла вельмі ўдалую прэс-канферэнцыю, якая паказала: наш паўночны сусед сапраўды хоча ведаць болей пра Беларусь і яе праблемы.

Па словах старшыні АГП Анатоля Лябедзькі, ягонай партыі ўдалося стварыць прэцэдэнт, калі сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі шчыльна зацікавіліся ў іншых краінах. Па ягоных словах, да канца гэтага году ставіцца мэтай правесці аналагічныя слуханні ў парламентах суседніх краінаў – Польшчы і Украіны, магчыма – Расіі і Латвіі.

**Расціслаў ПЯРМЯКОЎ**
**Вільнюс**

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

## Курс наяўнага даляра на «чорным рынку»

1750

# Наступны кошт паездкі – 160 рублёў

У чарговым тэндэры на абнаўленне тралейбуснага парка беларускай сталіцы перамаглі Мінскі аўтамабільны завод і «Белкамунмаш». У іх будуць закупленыя 15 адзіночных машын на электрацязе. Начальнік упраўлення транспарту і сувязі Мінгарвыканкаму Уладзімір Сасноўскі лічыць гэты факт яскравым адлюстраваннем тэндэнцыі не траціць сродкі на наземны транспарт па-за межамі Беларусі. Па яго словах, хоць расійскі гарадскі транспарт таннейшы, чым беларускі, але частка сродкаў на айчынны вяртаецца ў выглядзе падаткаў, і іхняя доля ў выніку выраўноўвае кошт. Дзяржаве пакуль выгадна купляць сваё.


Фота Ул. ШЛАПАКА

Па звестках з гарвыканкаму, у красавіку будзе таксама праведзены тэндэр на закупку 23 вагонаў метро. Яны вельмі патрэбныя для камплектавання пятым вагонам кожнага маршруту першай лініі метрапалітэну. Кошт здзелкі складзе 12 мільярдаў рублёў. На асваенне гэтай сумы заявіліся ўжо 6 удзельнікаў, у тым ліку 2 заводы з Беларусі.

Самым паспяховым вынікам Мінск лічыць 50-працэнтнае абнаўленне парка пасажырскіх аўтобусаў. Каб падцягнуць да такога ўзроўню наземны электратранспарт, горад купляе 5 новых трамваяў на заводзе «Белкамунмаш», а ў стадыі вырашэння – пытанне аб набыцці яшчэ 10 адзінак гэтага віду транспарту. Кошт аднаго трамваю дасягае 206 мільёнаў рублёў, што значна даражэй, чым кошт аўтобуса ці тралейбуса. Здая набываць трамваі, якія былі ва ўжытку ў Еўропе, не знаходзіць падтрымкі ў гарадскога кіраўніцтва.

Грошы на ўмацаванне колавага парка сталіцы акумулююцца за кошт сродкаў абавязковага транспартнага збору, а 50% затратаў аплачваюць самі пасажыры. Калі строга прытрымлівацца гэтых суадносінаў, то ўжо сёння, як кажа начальнік упраўлення транспарту і сувязі Мінгарвыканкаму Уладзімір Сасноўскі, кошт адной паездкі ў горадзе павінен дасягнуць 160 рублёў.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

# Спынена будаўніцтва ў Сухараве

Новы мікраРаён перспектыўнай забудовы Мінску «Сухарава» не развіваецца ад пачатку гэтага году. Перашкодай стала тэрытарыяльная спрэчка між кіраўніцтвам Мінску і Мінскай вобласці. У раней распрацаванай праектнай дакументацыі інстытуту «Мінскпраект» не ўлічвалася, што гэтыя землі ўваходзяць у склад Мінскай вобласці і з'яўляюцца ўрадлівымі. У прыватнасці, тут знаходзяцца палі севазвароту агракамбінату «Ждановічы». Эканамічна моцная гаспадарка патрацціла шмат сродкаў, каб натуральная ўрадлівасць ворыва складала зараз 53 балы, пры сярэднім паказчыку па вобласці 34. Ураджаі зерневых культур тут вышэйшыя за 50 цэнтнераў з гектара.

Барацьба, якая ідзе з вясны за кожны дадатковы кілаграм збожжа ў загадзя абвешчаны на Міншчыне двухмільённатонны намалот, наўрад ці дазволіць гораду атрымаць дадатковыя плошчы пад будаўніцтва. Аграрнікі пакуль не саступаюць ані пядзі.

**Галіна МАК**

КРЫМІНАЛ

# Наркабізнесам запраўляюць цыганы

У Слуцку сёлета зарэгістравалі ўжо 25 выпадкаў выкрыцця незаконнага збыту наркотыкаў. У мінулым годзе было толькі 4. Рост колькасці крымінальных спраў – гэта вынік больш дасканалай працы тамтэйшай міліцыі, у чыіх шыхтах з'явілася адмысловая група сышчыкаў.

Узмацнець сілы правапарадку вымушае так званы цыганскі сектар у горадзе. Прадстаўнікі смуглявага племені качэўнікаў прызвычаіліся рабіць грошы на перапродажы наркотыкаў. Прычым не ўласнымі рукамі, а чужымі. Як паведаміў старшы оперупаўнаважаны групы нораваў і незаконнага абароту наркотыкаў слуцкай міліцыі Мікалай Машко, асобы цыганскай нацыянальнасці ўпарта прыцягваюць да чорнай справы мясцовых жыхароў. Перадусім гэта бамжы, якія адпрацоўваюць за выпіўку і харчы.

У міліцыі не пярэчаць неафіцыйнай статыстыцы, якая налічвае на кожнага выяўленага наркамана яшчэ 10 тайных. Атрымліваецца, што ў Слуцку ў палоне ілюзорнай ізаляцыі ад праблем жыцця зараз хаваюцца каля паўтысячы чалавек.

**Галіна БАРАВАЯ**

ЗДАРЭННІ

# Пажар на «Беларуськаліі»

У суботу ў 5.23 раніцы ў шахце першага рудаўпраўлення на глыбіні 430 метраў узнік пажар. Уся змена шахцёраў, а гэта 109 чалавек, была эвакуіравана аварыйнай брыгадай горнаратаўнікоў «Беларуськалія». Яна ж праводзіла работы па знішчэнні ачага ўзгарання і ліквідацыі наступстваў пажару. Такія звесткі былі атрыманы ў прэс-службе Міністэрства па надзвычайных здарэннях. А вось кіраўнік атраду ратаўнікаў адмовіўся даць больш падрабязныя звесткі без дазволу свайго кіраўніцтва. Такія вось таямніцы вакол надзвычайнага здарэння.

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**

НАШЫ БАБУЛІ


Фота Ул. ШЛАПАКА

# Дэкларацыю запаўняюць маламаёмныя

З 11 красавіка ў Асіповіцкім раёне пачалася рэалізацыя пробнага праекту Міністэрства працы і сацыяльнай абароны насельніцтва. Канцэпцыю распрацаваў і ўхваліў Савет міністраў Рэспублікі Беларусь дзякуючы грашоваму гранту Сусветнага банку. Пробны праект мае на мэце адмяніць цяперашні падыход у справе матэрыяльнай дапамогі загадзя вызначаным катэгорыям насельніцтва. З-за гэтага яе атрымліваюць толькі 30% ад усёй колькасці сапраўды бедных людзей у Беларусі. Цяпер кожна права на дапамогу будуць мець грамадзяне, грашовы даход якіх не перавышае 60% бюджэту пражытачнага мінімуму. На сённяшні дзень бюджэт пражытачнага мінімуму на душу насельніцтва складае 62 тысячы 568 рублёў. Такім чынам, права на дапамогу дае даход, меншы за 37 тысячаў 541 рубель. Правы на атрыманне адраснай дапамогі будуць мець таксама і працаздольныя сем'і, якія выхоўваюць адно і больш дзяцей.

Тое, наколькі вострa чалавек мае патрэбу ў матэрыяльнай дапамозе, павінна адлюстраваць адмысловая дэкларацыя з улікам усёй нерухомай і рухомай маёмасці. У новым праекце ўлічваецца 34 віды прыбыткаў сям'і, тым часам як зараз яны распісаныя па 20 пунктах.

У верасні 2002 году, калі будуць падведзеныя вынікі пробнага праекту ў Асіповіцкім раёне і адпрацаваныя адзіныя механізмы, прапановы перададуць ва Ўрад Беларусі.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

# У невідушчых адабралі заробак

За тры першыя месяцы гэтага году затрыманы заробак працаўнікоў маладзечанскай культурна-адукацыйнай установы «Кантраст». Яе дырэктар Іван Радзвіловіч спасылаецца на перабоі бюджэтнага фінансавання, хаця існуе рашэнне ўраду краіны аб мэтавай падтрымцы. Без грошай застаюцца адмысловцы, якія адказваюць за сацыяльна-працоўную рэабілітацыю невідушчых. Людзі ў адчаі. Яны вымушаны пратэрміноўваць кватэрную аплату і камунальныя паслугі, залазіць у даўгі, каб купіць прадукты харчавання.

Як паведаміў Іван Радзвіловіч, сістэма сацыяльна-працоўнай рэабілітацыі складалася ў Беларускім таварыстве інвалідаў па зроку цягам апошніх 10 гадоў. Зараз у рэгіянальных структурах рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Выспа» стала працуюць больш як 400 чалавек. Толькі ў Маладзечне пад іх апекай знаходзяцца 9 калектываў мастацкай самадзейнасці, чатыры з якіх маюць ганаровае званне «народны», 27 клубных аб'яднанняў, 10 спартовых секцый. Дарэчы, на Паралімпійскіх гульнях у Аўстраліі ў 2001 годзе спартоўцы культурна-рэабілітацыйнай установы «Кантраст» здабылі ажно 9 медалёў.

І.Радзвіловіч лічыць, што нават у беднай дзяржаве чыноўнікі не маюць права крыўдзіць людзей, якія ўжо аднойчы пакараныя лёсам. Бог не даруе.

**Галіна МАК**

# Хлебная «вайна» за пенсіянераў

*Скандал у вёсках Новыя Зелянкі і Грабёнка Чэрвеньскага раёну.*


Фота Ул. ШЛАПАКА

Настаўніца Ганна Вішнеўская, хатняя гаспадыня Валянціна Качан, пенсіянерка Алена Лісіца і яшчэ не менш як 90 іхніх аднавяскоўцаў паставілі подпісы пад зваротам да свайго заступніка Лукашэнкі, якога ізноў абралі 9.09.2002 году. Людзі жагнуць хлеба! Сырыя боханы, што завозяць з райцэнтру, мала прыдатныя для ежы – з іх, як з гліны, дзеці лялькі лепяць! Але так бы і душыліся насельнікі «мядзведжага» кутка камякамі мякішу, калі б прадпрымальны чалавек Юрый Тарасенька не супраць паставіў казённаму асартыменту ў сельмагу сваю прыватную кемлівасць. У адпаведнасці з ліцэнзіяй райвыканкаму на дробны гандаль, ён напачатку завозіў у вёску хлеб лепшай выпечкі і іншыя харчы па папярэднім заказе. Устойлівы попыт, аднак, дадаў упэўненасці, і карабейнік папрасіў пад свой пашыраны гандаль вольныя закуткі на «гуляючых» плошчах у тамтэйшых сельскіх клубах. Цяпер бальшыня з 1,5 тысячы жыхароў навакольля стала карыстаецца паслугамі прыватніка. Калі б у суседніх крамах райспажыўсаюзу не было навалам «чарніла», то іх можна было б зачыняць. Юрый Тарасенька без праблем атаварвае тую мізэрную частку грашовых сродкаў вяскоўцаў, што яны эканомяць з заробкаў і пенсіі на запалкі, хлеб і селядзец.

Шкада, што ёсць камерцыйная тайна і нельга наўпрост параўнаць, якія такія «шалёныя» прыбыткі прыватніка давялі да чорнай зайздрасці ягоных канкурэнтаў з райспажыўсаюзу. Але на лапу манаполіі ён наступіў балюча, бо з райцэнтру пачала наведваца начальнік упраўлення па рынкавых адносінах і прыватызацыі Галіна Матэцкая. 21 сакавіка гэтая дама з раёну, асабліва раз'юшаная, падзерла на шматкі ў краме прыватніка копіі ліцэнзій Тарасенькі: маўляў, не разбэшчвай нашых пакупнікоў! А калі людзі заступіліся за прадпрымальніка, то раённая «вертыкаль» прыгразіла зацячана скасаваць з ім дамову арэнды.

– Сорамна ўзгадваць, – кажа Юрый, – але калі ў вёсцы Новыя Зелянкі адбывалася сустрэча з загадчыцай фінаддзелу райвыканкаму Макаранкай, то яна абразліва пабачала пенсіянерам «будуць есці той хлеб, які прывязуць у сельмаг». Мне было заяўлена, каб выбіраўся прэч са сваім гандлем.

Збіральнік подпісаў у абарону прыватнага гандлю ў Новых Зелянках Аляксандр Наркевіч перакананы, што мясцовая ўлада робіць памылку, калі пазбаўляе людзей мажлівасці выбару. Ён асабіста размаўляў з кожным, хто ставіў подпіс пад калектыўнай скаргай, і ўпэўнены, што землякі зусім не супраць цэнтралізаванага гандлю спажыўкааперацыі, але ўсе за тое, каб яму стварылі канкурэнцыю.

Чыноўнікі з апарату Чэрвеньскага райвыканкаму, які ачольвае Аляксандр Лапатка, адмаўляюцца гутарыць з журналістамі пра канфлікт у Новых Зелянках. Хоць кожны чыноўнік ведае пра ліст у Мінск, але разам яны яшчэ цьмяна арыентуюцца, якою будзе рэакцыя. Інтуіцыі хапіла толькі на тое, каб «кінуць» на хлебазавод камісію і штодзённа кантраляваць якасць выпечкі.

**Вячаслаў КУЛІКОЎСКІ**

**Каментар НАШАЙ СВАБОДЫ**

У Беларусі не існуе зводнай статыстыкі аб колькасці прадпрымальнікаў, якія на сваім транспарце пакідаюць межы гарадоў для гандлю ў вёсках. Іх – тысячы. Можна нават сцвярджаць, што адбыўся першапачатковы падзел правінцыйнага рынку і жыццё падказвае карабейнікам заваёўваць тут новы ўзровень. Ужо зараз прыватнік на колах з таварам больш мабільны, чым экспедытар аўталаўкі. Прадавец у краме можа заснуць ад самоты ля пустых паліцаў, а «чаўнок» не лянуецца абыходзіць двары, прапаноўваць тавар і запісваць просьбы. У дзень выдачы калгасных заробкаў «кароль» гандлю – гарэлачна-вінны сельмаг. Затое пенсіянеры – клієнты прыватніка. Калі разлучыць аднаго з другім, скандалу не пазбегнуць. Таму прыклад – не скончаная яшчэ хлебная «вайна» ў Чэрвеньскім раёне.

# Старажылу Міншчыны 111 гадоў

У вёсцы Курдуны Валожынскага раёну жыве самая пажылая жанчына Мінскай вобласці. Гэта Пупко Яніна Браніславаўна, якая нарадзілася ў 1891 годзе, у маладосці працавала на сваёй падсобнай гаспадарцы, захаплялася ткацтвам і вышываннем. З 1953 працавала ў калгасе «Верны шлях». З 1965 году – пенсіянерка. У красавіку Яніна Браніславаўна атрымала ўсяго 49 626 рублёў, гэта з улікам 7 821 рубля, што складае 50% ад мінімальнага памеру пенсіі і выплачваецца дадаткова асобам у веку пасля 80 год.

Асабістае жыццё Яніны Браніславаўны, можна меркаваць, склалася нядрэнна. Яна была замужам, нарадзіла трох дачок. Муж памёр 15 год таму. Старэйшая дачка – Марыя, 1921 году нараджэння, жыве ў Дзяржынскім раёне Мінскай вобласці. Сярэдняя – Ванда, 1944 году нараджэння, жыве ў адной вёсцы з маці і дапамагае ёй.

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**

**Рэдакцыя часопісу «Спадчына» выказвае спачуванне галоўнаму рэдактару Захару Шыбеку з прычыны смерці жонкі**

# «Свабода слова ні ў якай ступені не павінна абмяжоўвацца»

### Падтрымка з Польшчы

З заявай у падтрымку галоўнага рэдактара «Пагоні» Міколы Маркевіча і журналіста газеты Паўла Мажэйкі выступіла міністэрства замежных справаў Польшчы.

«Міністэрства замежных справаў Польшчы заклапочана сочыць за чарговай спробай уладаў Беларусі абмежаваць свабоду слова ў гэтай краіне. Судовы працэс супраць журналістаў і незалежнай газеты «Пагоня», а да таго ўмовы, пры якіх улады ў Мінску давялі да закрыцця гэтай газеты, адназначна пацвярджаюць, што адзін з асноўных прынцыпаў, якім з'яўляецца свабода слова, у Беларусі сістэматычна парушаецца. Сусветная грамадскасць не можа мірыцца з такім становішчам.

Польшча, у сувязі са сваім гістарычным досведам і як суседняя дзяржава, мае асаблівы абавязак звяртаць увагу на парушэнні правоў чалавека».

### Заява МЗС Беларусі

У адказ польскім калегам выступіла МЗС Беларусі.

«Апошнім часам у Польшчы разгарнулася кампанія ў «абарону» свабоды слова ў Беларусі ў сувязі з закрыццём у судовым парадку гродзенскай газеты «Пагоня» і пачаткам разбіральніцтва ў дачыненні галоўнага рэдактара выдання М.Маркевіча і журналіста П.Мажэйкі.

Нягледзячы на неадназначныя папярэджанні, рэдакцыя газеты «Пагоня» дапускала парушэнні Закону Рэспублікі Беларусь «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі». Дзейнасць газеты «Пагоня» была спынена беларускім судом у адпаведнасці са згаданым Законам.

Даводзіцца канстатаваць, што ў пытанне, якое з'яўляецца выключнай прэрагатывай права, спрабуюць штучна ўнесці голыя эмоцыі і аказаць уціск на незалежныя судовыя органы Беларусі. Такі падыход не вітаецца ў любой дэмакратычнай дзяржаве, не выключаючы і Польшчу.

Беларуская дзяржава будуе свае ўзаемадачыненні са сродкамі масавай інфармацыі ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і дзейным заканадаўствам аб друку. Артыкул 33 Канстытуцыі гарантуе кожнаму свабоду меркаванняў, перакананняў і іх свабоднае выказванне.

З'яўляючыся ўдзельніцай Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, Рэспубліка Беларусь зыходзіць з таго, што, у адпаведнасці з палажэннямі гэтага міжнароднага акту, карыстанне правам на свабоднае выказванне меркавання накладае асаблівыя абавязкі і асаблівую адказнасць.

Прыняцце рашэння па гэтай справе з'яўляецца выключнай прэрагатывай судовай улады Беларусі, незалежнасць якой гарантуецца Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь».

### Рэакцыя Варшавы

Карэспандэнт НАШАЙ СВАБОДЫ звярнулася па каментары ў сувязі з заявай беларускага МЗС да дырэктара дэпартаменту сістэмы інфармацыі МЗС Польшчы Багуславу Маеўскаму.

Багуслаў Маеўскі заявіў, што «інстытуты дэмакратычнай дзяржавы ў Беларусі не функцыянуюць». Ён яшчэ раз заявіў пра пазіцыю Польшчы, што «свабода слова – адзін з асноўных прынцыпаў дэмакратычнай дзяржавы, – у Беларусі сістэматычна парушаецца», што, па ягоных словах, і пацвярджае працэс журналістаў газеты «Пагоня».

Багуслаў Маеўскі таксама сказаў, што міністр замежных справаў Польшчы неаднаразова падкрэсліваў, і гэта застаецца актуальным, што яго краіна зацікаўленая ў развіцці стасункаў з Беларуссю на ўзроўні рэгіянальных уладаў, органаў мясцовага самакіравання, а таксама эканамічных адносінаў.

«Тое, што адбываецца вакол газеты «Пагоня», не напаўняе нас аптымізмам», – дадаў Багуслаў Маеўскі.

На пытанне карэспандэнта газеты, ці не з'яўляецца выражэнне польскім МЗС сваёй думкі наконт будучага судовага працэсу супраць журналістаў «Пагоні», умяшальніцтвам у незалежнасць беларускіх судоў, як гэта інтэрпрэтуюць беларускія ўлады, сп. Маеўскі адказаў: «Мы не ўмешваемся ў незалежнасць беларускіх судоў, не каментуем судовыя працэдуры. Мы выражаем надзею, што суд у Беларусі ў сваіх рашэннях будзе кіравацца прынцыпам незалежнасці. Аднак нас турбуе тое, што журналістаў увогуле ставяць у гэтай сітуацыі перад судом. Свабода слова ні ў якай ступені не павінна абмяжоўвацца».

**Людміла ГУЛЯКЕВІЧ**

# Журналісты – не злачынцы...

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Дарэчы, ён прасіў, каб яго не везлі дахаты, бо ў яго не было нават ключоў, але яму патлумачылі, што гэта гуманны жэст з боку міліцыі.

Пасля гэтага ў памяшканні гарадской Рады БНФ адбылася прэс-канферэнцыя. Прэзідэнт Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанна Літвіна сказала, што Гродна стаў цэнтрам змагання за прафесійныя правы журналістаў. На сёння незалежныя сродкі масавай інфармацыі – ледзьве не адзіны інстытут, які кантралюе дзеянні ўладаў. Сп. Літвіна сказала, што пасля няўдалага пачатку суду адчула іхнюю разгубленасць, нават страх. Маральная перавага – на баку журналістаў.

М.Маркевіч нагадаў, што старшыня гарвыканкаму А.Антоненка ўпарта не дазваляе прапісацца ў горадзе любой новай газеце.

Журналістаў «Пагоні» афіцыйна падтрымалі канцылярыя прэзідэнта Польшчы А.Квасьнеўскага, Нобелеўскі лаўрэат у галіне літаратуры Чэслаў Мілаш, галоўныя рэдактары ўплывовых польскіх выданняў. У падтрымку М.Маркевіча і П.Мажэйкі 9 красавіка адбыўся журналісцкі пікет у Беластоку. Яго ўдзельнікі прынялі заяву да генеральнага консула Беларусі ў гэтым горадзе.

8 красавіка ў Гродне адбылася прэс-канферэнцыя, на якой выступіў Падляскі ваявода з Беластока М.Стшалінскі і старшыня Гродзенскага аблвыканкаму Уладзімір Саўчанка. Ім давялося адказваць на пытанні адносна суду над журналістамі «Пагоні». Польскі госць адказаў, што не ведаў пра суд, але пра праблемы дэмакратычнай прэсы ў Беларусі яму вядома. Тым не менш, ён прыехаў наладжваць гаспадарчыя кантакты, і палітычныя пытанні падчас ягонага візіту не абмяркоўваліся. У.Саўчанка адказаў, што ўсё вырашыць суд, які не падначальваецца выканаўчай уладзе. Але, маўляў, калі вінаватыя, дык хай адказваюць. Праблемы з «Пагоняй» няма, яе спрабуюць раздзьмуць асобныя журналісты. Так лічыць абласны галава.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Мікола Маркевіч: «Пачаць выконваць Канстытуцыю»

*Галоўны рэдактар «Пагоні» Мікола Маркевіч адказвае на пытанні НАШАЙ СВАБОДЫ.*

***– Спадар Мікола, што здарылася 9 красавіка? Чаму працэс быў адкладзены на няпэўны час?***

– Я не ведаю, ці сапраўды хворы суддзя Сяргейка. Асноўнай прычынай таго, што адбылося 9 красавіка, я лічу тое, што ўлады проста не ведаюць зараз – што рабіць з намі? На тое ёсць, як мінімум, тры прычыны.

Першая звязана з тым, што кожная старонка крымінальнай справы, якая ляжыць у судзе, «вопиет» пра тое, што Маркевіч і Мажэйка невінаватыя. У прынцыпе, задача суду вельмі простая – разгледзець справу і вынесці апраўдальны прысуд. Але тут пачынаецца самае цікавае: на працягу сямі месяцаў, пачынаючы з 5 верасня мінулага году, пракуратура і гарадзенскія ўлады зрабілі столькі «махровага» беззаконня, столькі шкоды, у тым ліку, і фінансавай, – што у выпадку апраўдальнага прысуду трэба будзе прызнаць, што рашэнне Вышэйшага Гаспадарчага суду было няправільным і грунтавалася не на праве, а на палітычным заказе. Трэба будзе вярнуць тэхніку, грошы, паперу, абсталяванне – усяго, па маіх падліках, трохі больш за 5 тысяч даляраў. Але самае галоўнае ва ўсім гэтым – уладзе трэба будзе прызнаць, што яна дзейнічала, як звычайны бандыт.

Самая галоўная хіба гэтае ўлады ў тым, што яна проста не гатовая да нармальнага прыстойнага дыялогу з грамадствам, у дадзеным выпадку – з адной з груп гэтага грамадства – журналістамі.


Фота www.pahonia.com

І трэцяе. Гэтая ўлада, з майго пункту гледжання, зрабіла ўдалы крок: яна пабачыла, што не толькі за межамі, у Польшчы, Амерыцы, Літве, пачалася сапраўдная кампанія пратэсту супраць нашага пераследу, у яе ўключыліся – без перабольшвання – дзесяткі тысячаў людзей на Беларусі. Улада пабачыла настрої гарадзенскай грамадскасці: да будынку суду нечакана для мяне прыйшло вельмі шмат народу, які быў настроены даволі рашуча. І яшчэ ёсць дзесяткі тысяч чалавек, якія пасіўна нас падтрымліваюць. І што робіць улада? Яна вырашыла расцягнуць гэты працэс у часе, змяншыўваць, зменшыць людскі пратэст супраць яўнага беззаконня. Зараз улада ліхаманкава шукае выйсце з брыдкай і бруднай сітуацыі, а з іншага боку, улада будзе чакаць, калі спадзе хваля пратэсту – і тады яны прызначаць тэрмін разгляду крымінальнае справы. Я ўпэўнены, што гэта, канечне, невялікая перамога ўсіх тых, хто змагаўся за нас, але ў дадзеным выпадку ўлада не здалася – яна толькі часова адступіла.

***– Ва ўмовах, у якіх праходзіла падрыхтоўка працэсу, на які прысуд вы з Мажэйкам настроіліся?***

– У мяне няма ілюзіяў адносна нораваў і звычак гэтага рэжыму. Адзін толькі чалавек вырваўся з лапаў лукашэнкаўскага «правасуддзя» – гэта Шарамет, і той правёў два з паловай месяцы ў Гарадзенскім СІЗА. Калі я ўпэўнены ў тым, што прысуд, яго жорсткасць альбо, наадварот, мяккасць – будзе цалкам залежаць ад нашай актыўнасці. Калі народ скажа «не», то асудзіць не асмеляцца. Гэтыя чыноўнікі – таксама людзі, яны цудоўна разумеюць, што рэжым – не вечны. І рана ці позна за сфабрыкаваныя справы трэба будзе адказваць. І «хвароба» суддзі Сяргейкі – яшчэ адно таму пацвярджэнне. Па маёй інфармацыі, у судзе ўвогуле не могуць знайсці суддзю, які б згадзіўся ўзяцца за нашую справу –яны баяцца забрудзіць свае рукі, рэпутацыю.

***– Ці маеце Вы інфармацыю, што насамрэч здарылася з суддзём?***

– Можа, гэта і не па-хрысціянску, але я не веру ў хваробу суддзі Сяргейкі не толькі па тых прычынах, якія акрэсліў. Я маю абсалютна пэўную інфармацыю, што на момант пачатку судовага працэсу былі падпісаныя паперы наконт таго, каб спадар Сяргейка заняў пасаду намесніка старшыні Гарадзенскага абласнога ўпраўлення юстыцыі. Дакументы пра прызначэнне Сяргейкі з'явіліся за некалькі дзён да пачатку працэсу; пра іх нам стала вядома ў пятніцу (5 красавіка. – Р.Б.).

***– Спадар Мікола, у якой атмасферы вам давялося пражыць апошні месяц з моманту перадачы крымінальнай справы ўсуд па 9 красавіка, калі меўся пачацца судовы працэс?***

– На жаль, цяпер мы толькі абнаўляем сваю старонку ў Інтэрнэце – гэта, канечне, не той аб'ём працы, што пры выпуску нармальнай васьмістаронкавай газеты. Для нас робіць так званыя «уцечкі інфармацыі» пра той ці іншы прысуд, нам называліся ўжо і лічбы – каго на колькі гадоў прыгавораць. Нам расказвалі, што з 28 сакавіка за намі ўстаноўлена аператыўнае сачэнне, што праслухоўваюцца не толькі нашыя тэлефоны, але і тэлефоны ўсіх тых людзей, да каго мы тэлефанавалі больш за 5 разоў. Тое, што 5 красавіка міліцыя сустрэла першы пікет у нашу абарону на ганку аблвыканкаму, сведчыць пра тое, што праслухоўванне і пільнае назіранне за кожнай нашай ініцыятывай існуе. Кожны дзень мы бачым побач з рэдакцыяй міліцэйскую машыну, патрулі. Усё гэта, шчыра кажу, вельмі моцна адбіваецца на настроі, на псіхіцы, на паводзінах. Але я хацеў бы працытаваць словы Адама Міхніка, галоўнага рэдактара «Газеты Выборчай», самай вялікай газеты ва Усходняй Еўропе: «Як жа трэба пагарджаць сваім прэзідэнтам таму пракурору, які ўзяўся абараняць гонар і годнасць прэзідэнта такімі метадамі»? У гэтага рэжыму ёсць толькі адна альтэрнатыва: разам з усімі людзьмі, усім грамадствам пачаць выконваць Канстытуцыю і законы. Калі гэтага не будзе, то, я ўпэўнены, гэты рэжым з'есць сам сябе.

**Гутарыў Рыгор БУЯН**

## СВОЙ ГОЛАС

***– Як Вы лічыце, дзяржава павінна ўкладаць грошы ў развіццё касмічнай галіны альбо лепш аддаць іх у сацыяльную сферу?***



**Ганна, доктар:**
– Даследаванні, безумоўна, патрэбныя. Краіна павінна развівацца па ўсіх напрамках, а не толькі карміць сваіх жыхароў.



**Аляксандр, галоўны інжынер:**
– Не, трэба абавязкова працягваць развіваць касмічную галіну. Але і на сацыяльную сферу забывацца таксама не варта.



**Алена, аператар сувязі:**
– Па мне няхай бы замест палётаў у космас набудавалі новых крамаў нейкіх. А ўвогуле, хай вырашаюць усё, як звычайна, улады.



**Дзяніс, ліцэйшчык:**
– Абавязкова трэба ў касмічныя даследаванні ўкладаць грошы, бо гэта ж таямніца, якую трэба даследаваць больш і больш. А на сацыяльную сферу колькі ні давай, усё роўна народу будзе мала. Лепш укладаць сродкі ў нешта сур'ёзнае.

**Наталля, бухгалтар:**
– І тое, і тое патрэбна. На цяперашні момант у сацыяльную сферу павінны быць большыя ўліванні, бо зараз моладзь знаходзіцца пад антысацыяльнай пагрозай і яе трэба ратаваць.



**Тамара, без прафесіі:**
– Я не жадала б ні на якое пытанне вам адказваць, бо я прыезджая... Але я скажу, што ў космас калі і лятаць, то толькі з пазнавальнымі мэтамі.



**Іван, баец ската:**
– Толькі ў сацыяльную сферу, так будзе лепей. Нерэнтабельна зараз па космасах лятаць.



**Андрэй, кіроўца-экспедытар:**
– Я лічу, што найперш трэба грошы ўкладаць у сацыяльную сферу, а ўжо затым у космас, калі нешта застанецца. Вы ж гляньце, мы сацыяльна зусім не абароненыя, падаем усё ніжэй і ніжэй, колькі ж можна?



**Людміла Мікалаеўна, настаўніца:**
– Я лічу, што лепш у касмічную сферу. Космас увогуле павінен стаяць на першым месцы, бо гэта наша з вамі будучае...



**Анатоль, экспедытар:**
– Я б уклаў у сацыяльную сферу. Гэта маё меркаванне асабістае.



**Тамара Аляксандраўна, пенсіянерка:**
– Ну, Беларусі касманаўтыка не патрэбная, але калі аб'яднаемся з Расіяй, тады іншая справа. Але ж ведаеце, усё патрэбна, і жыццё, і космас.

Апытанне праводзілі **Аляксей ШЫДЛОЎСКІ і Уладзімір ШЛАПАК (фота)**

# Беларуская мадэль

*Тое, пра што шмат хто з нас з цьмянай трывогай здагадваўся ўсе гэтыя гады, пацвердзілася: «беларуская мадэль развіцця» аб'ектыўна існуе. «Усё, што сёння мы маем у эканоміцы, у сацыяльнай і другіх сферах, – вынік таго, што мы ўсе гэтыя гады ішлі сваім шляхам, мы жылі сваім розумам», і гэта праўда. Выступаючы перад кіраўнічымі работнікамі рэспубліканскіх і мясцовых дзяржаўных органаў, прэзідэнт Лукашэнка заявіў: «Сёння пра гэта гаварыць можна». Рэдакцыя скарыстала з дазволу і звярнулася па каментар да экс-старшыні Нацбанку прафесара Станіслава Антонавіча Багданкевіча:*

**Кар. *Калі Вы не пярэчыце, то кожнае пытанне будзе пачынацца цытатаю з дакладу прэзідэнта. Вось жа:***

*«Ацэньваючы наш шлях развіцця, многія ўжо кажуць, што Беларусь паступіла слушна (нават Міжнародны банк і нават МВФ)...»*

***Няўжо мы, як той Цэзар, можам усклікнуць: «І ты, МВФ!»?***

**С.Б.** Не. Яны крытычна ставяцца да беларускай мадэлі. Чаму МВФ не дае крэдытаў? Бо яму не ўдалося ўзгадніць з кіраўніцтвам краіны асноўныя моманты эканамічнай праграмы. Яе сутнасць – жыць па сродках. Сусветны банк выдзяляе часам крэдыты, але толькі на праграмы сацыяльныя. Напрыклад, на навучанне рабочых кадраў, энергазберажэнне. Але важныя не столькі наўпроставыя крэдыты МВФ, колькі яго гарантыі. Без іх сур'ёзныя прыватныя інвестары ў краіну не прыйдуць.

**Кар. *З заходнімі крэдытамі ці без іх, але «беларуская мадэль развіцця» аб'ектыўна існуе?***

**С.Б.** Я не магу сказаць, што яна створана Лукашэнкам і яго прыбліжанымі. Яна фактычна паўтарае мадэль бальшавікоў, гэта мадэль спробы ігнаравання аб'ектыўных законаў, мадэль умяшання ў эканамічныя працэсы. Гэта мадэль прынцыпу простых валявых рашэнняў, мадэль перабольшвання ролі і значнасці дзяржаўнага сектару. Пры адсутнасці рэальнага росту прадукцыйнасці працы ў нас павышаюць зарплату. Паводле афіцыйнай статыстыкі, у лютым 47,2% прадпрыемстваў былі стратнымі, але дзяржава падтрымлівае іх за кошт тых, хто яшчэ хоць нешта зарабляе. Усё гэта «беларуская мадэль».

*«Наша краіна першая на постсавецкай прасторы пераадолела крызісныя тэндэнцыі ў эканоміцы... За 2001 год аб'ём ВУП у нас павялічыўся больш як на 4%».*

**Кар. *Калі параўнаць прыведзены паказчык з дасягненнямі вядучых заходніх краін за мінулы год, то мы мусім толькі радавацца.***

**С.Б.** Так, але якім коштам? Коштам росту запазычанасці эканомікі перад камерцыйнымі банкамі на 72%. І гэта каб забяспечыць эканамічны рост толькі на 4,1%! Каму патрэбна такая неэфектыўнасць? Амаль цалкам страчаны абаротны капітал, яго не хапае нават на выплату заработнай платы. Зношанасць абсталявання перавысіла 80%. Мы апусціліся на такое дно, якога не бачылі палякі пры «шокавай тэрапіі».

*«Нашы навуковыя ўстановы і навукоўцы плятуцца далёка ў хвасце падзеяў і не паспяваюць не тое што прагназаваць будучыню, але нават талкова апісаць, што ўжо склалася». «...Усе разам за гэтыя гады не стварылі ніводнае вартае працы, якая б не тое што прадказвала, але хоць бы каментавала «беларускі шлях развіцця».*

**Кар. *Зноў славуты адрыў тэорыі ад практыкі?***

**С.Б.** Я хачу сказаць, што некалькі групаў вядучых вучоных шмат разоў прапаноўвалі канцэпцыю эканамічнага развіцця краіны. Пачытайце часопісы. Прапановы ёсць. Яны агульнавядомыя. Неабходна развіваць малы і сярэдні бізнес. У Еўропе ён стварае 60% ВУП, у нас – 5–7%. Ёсць сур'ёзныя прапановы па барацьбе з інфляцыяй. Мы адзіная краіна на постсавецкай прасторы, якая не спыніла росту цэнаў. Што такое грошы? Грошы – гэта карткі, з дапамогай якіх можна падзяліць тое, што створана. Але калі рост ВУП адбыўся на 4%, то і картак неабходна выпусціць на 4% больш.

*«Досвед Кітаю і досвед Беларусі вельмі блізкія між сабою, яны перспектыўныя і паспяхова рэалізуюцца на практыцы. У гэтым я пераканаўся, не раз наведваючы КНР».*

**Кар. *Поспех Кітаю агульнавядомы. Ці сапраўды нашыя эканамічныя мадэлі «блізкія між сабою»?***

**С.Б.** Аляксандр Рыгоравіч хітруе. Мы выкарыстоўваем кітайскую мадэль палітычнага кіравання краінаю, гэта выўляецца, напрыклад, у адсутнасці палітычнае канкурэнцыі. Але кітайская эканоміка функцыянуе на рынкавай аснове, на базе адмовы ад кантролю над цэнамі, на базе свабоды ўласнасці. У Кітаі дзяржава не падтрымлівае стратных вытворчасцяў. Кітай выкарыстоўвае сусветны досвед вядзення эфектыўнай эканомікі. Паверце, лішніх работнікаў на кітайскіх прадпрыемствах не трымаюць.

*«Цяпер адбываецца прынцыповая змена ліберальных тэорыяў, якія пануюць у заходняй эканамічнай навуцы. У прыватнасці, гаворка ідзе пра адмову ад прынцыпу неабмежаванай канкурэнцыі і прызнанне важнай ролі сацыяльнага фактару».*

**Кар. *Няўжо іх нобелеўскія лаўрэаты неўзабаве збяруцца да нас на стажыроўку?***

**С.Б.** Змены сапраўды адбываюцца, але ў адваротным напрамку. Возьмем, да прыкладу, Англію, дзе кансерватараў «жалезнай лэдзі» Тэтчар змянілі лейбарысты Блэра. Але цяперашнія лейбарысты рэзка адрозніваюцца ад сваіх калегаў 70-х гадоў. Яны праводзяць выключна ліберальную палітыку. Тое самае адбываецца ў Швецыі. Пачаўся працэс павышэння рэнтабельнасці вытворчасці шляхам скарачэння выняцця праз падаткі сродкаў для грамадскіх фондаў. Цяперашнія сацыял-дэмакраты заходняй Еўропы актыўна бяруць на ўзбраенне ідэі ліберальнай эканомікі. Ніхто не кажа пра тое, што эканоміка павінна быць поўнасцю вольная. Гэта няпраўда. Няма ў чыстым выглядзе ліберальнай эканомікі. Роля дзяржавы велізарная. Яна павінна вызначыць «правілы гульні» на рынку, але не ўмешвацца ў працэс вытворчасці.

*«Адмовіўшыся ад «шокавай тэрапіі», якую нам накінулі звонку, мы стварылі сваю мадэль развіцця».*

**Кар. *«У Беларусі «шокавай тэрапіі» не будзе». Гэты лозунг, калі я слушна памятаю, дастаўся цяперашняй уладзе ў спадчыну ячшэ ад Кебіча. Прайшло дастаткова гадоў, каб ацаніць чужы досвед. У чым ён?***

**С.Б.** Большыня краін з пераходнай эканомікай пайшла шляхам «шокавай тэрапіі». У Польшчы пры Бальцэровічу падобнае лячэнне прывяло да росту цэнаў у 8 разоў. У нас цэны растуць увесь час. Адзін год у 20 разоў, потым у 18. У нас «шок» працягваецца. У гэтым галоўнае адрозненне навуковага «шоку» ад Лукашэнкавага. У нас «шок» штогадовы. Летась рост цэнаў склаў 46%, але гэта таксама «шок».

«Шокавая тэрапія» скарачае лішніх людзей у вытворчасці і тым самым павышае эфектыўнасць эканомікі. Так, мінусы ёсць. Перадусім гэта рост беспрацоўя. Але ў Польшчы, напрыклад, кожны беспрацоўны атрымлівае дапамогу, якая перавышае пражытачны мінімум. А ў нас, нават паводле афіцыйных звестак, даход больш як 40% сем'яў – ніжэйшы за пражытачны мінімум.

*«Падкрэсліваю: калі ты прыватнік, гэта не значыць, што ты дзейнічаеш па прынцыпе «што хачу, тое і вараччу». Нацыянальныя інтарэсы, дзяржава павінны быць галоўным прыярытэтам і галоўнай мэтай, у імя якой працуе кожны грамадзянін, прадпрыемства ці прадпрымальнік».*

**Кар. *Дык чые інтарэсы павінны быць прыярытэтнымі? Няўжо мы найперш павінны дбаць пра дзяржаву?***

**С.Б.** Да чаго прыводзіць падобны падыход, добра відаць, калі ўзяць вынікoвы паказчык – гадавы даход на душу насельніцтва. Там, дзе інтарэсы асобы стаяць на першым месцы, у краінах заходняй дэмакратыі на аднаго чалавека прыпадае 20, а то і 30 тыс. даляраў. А ў нас за мінулы год 1 200 даляраў. Высновы рабіце самі.

*«Пакуль у нас вельмі шмат што ляжыць на складах нерэалізаванага, а гэта грошы, вялізныя грошы! ...нават калі прадаём, то прадаём па нізкіх цэнах. Вырабляць навучыліся – прадаваць не ўмеем».*

**Кар. *Навошта мы гандлюем сабе на страту – няма таго, каб прызнаць «добрыя» цэны за беларускія тавары і па іх гандляваць?***

**С.Б.** Неабходна вырабляць якасную прадукцыю. Добра яшчэ, што расіяне за свае Богам дадзеныя «якасныя» энергарэсурсы бяруць нашыя тавары. Адгэтуль і бартэр. Мы не можам разлічвацца з імі далярамі. Для таго, каб купіць нешта за даляры, трэба перш за даляры нешта прадаць. Аднак нашыя няякасныя тавары там нікому не патрэбныя.

*«Мы напрацавалі 12–15 умоваў для тых, хто сёння хоча купіць частку прадпрыемстваў ці ўсё прадпрыемства ў РБ. Імкненне адно: атрымаць ад гэтага вялікія дывідэнды для дзяржавы».*

**Кар. *12–15 умоваў. Скажыце, гэта ўсё сур'ёзна?***

**С.Б.** Я веру ў тое, што Лукашэнка шчыра стараецца не прадзешавіць. Прыватызацыя – гэта торг. Прэзідэнт бароніць нацыянальныя інтарэсы. Але праблема ў іншым. Усё гэта трэба было рабіць значна раней. Абсталяванне большыні прадпрыемстваў ператварылася ў кучу металалому. Такія прадпрыемствы стратныя, яны нікому не патрэбныя і таму нічога не вартыя. Наш нафтахімічны комплекс – адно з нешматлікіх выключэнняў, за яго яшчэ можна атрымаць прыстойныя грошы.

*«Дзяржава зацікаўлена ў развіцці прыватнага бізнесу, у павышэнні даверу да яго. Але толькі бізнесу сумленнага, які прыносіць карысць і прадпрымальніку, і дзяржаве».*

**Кар. *У нас шмат кажуць пра бізнес, які «прыносіць карысць», і пасярэднікаў-паразітаў. Наколькі я памятаю, у праграме Нацыянал-сацыялістычнай рабочай партыі Германіі капітал таксама падзяляўся на карысны (прамысловы) і шкодны (банкаўскі, напрыклад). Дык ці патрэбныя нам пасярэднікі?***

**С.Б.** Тут Лукашэнка пярэчыць сам сабе. Узгадайце «Вырабляць навучыліся – прадаваць не ўмеем». Але хто павінен прадаваць? Толькі прафесіяналы. Неабходна ведаць рынкі, адсочваць змены кан'юнктуры. Усё гэта патрабуе ўкладання сродкаў і досведу, так робіць ува ўсіх цывілізаваных краінах. У выніку гэта зніжае выдаткі, а значыць, і цэны.

*«Важнай задачай дзяржавы ў цяперашні момант з'яўляецца фармаванне чалавека новага тыпу: прадпрымальнага і ініцыятыўнага, дзейнага і творчага, які стварае матэрыяльныя каштоўнасці, жадае рабіць і зарабляць».*

**Кар. *Чарговая спроба выхаваць «новага чалавека». Простая цытата з праграмы КПСС, калі толькі выключыць словы «які жадае зарабляць».***

**С.Б.** Безумоўна, без людзей прадпрымальных, ініцыятыўных эфектыўнай эканомікі не збудуеш. Для гэтага неабходныя асобы. Але асобы вырастаюць толькі ўва ўмовах плюралізму, ува ўмовах сапраўднай канкурэнцыі ўва ўсіх сферах чалавечай дзейнасці. Стварэнне такога канкурэнтнага асяроддзя – найважнейшая задача дзяржавы.

Я прыхільнік жорсткай дысцыпліны, дысцыпліны выканання ўзятых на сябе абавязацельстваў. Без такой жорсткасці ліберальная эканамічная мадэль не працуе. Напрыклад, расійскі закон пра банкруцтва прадугледжвае перадачу маёмасці даўжніка крэдыторам, калі тэрмін запазычанасці перавысіць тры месяцы. Людзі павінны навучыцца быць самастойнымі, адказваць за сябе. А ў нас: прэзідэнт даў зарплату, прэзідэнт пабудаваў ляндовы палац. Наша дзяржаўная ідэалогія – ідэалогія ўтрыманства.

Сяргей НІКАЛЮК




КОШТЫ

## Селядцы падаражэюць напалову?

Гродзенскі Клуб прадпрымальнікаў выступіў супраць рэзкага павелічэння падаткаў.

Падатковыя органы прапанавалі мясцовым уладам павялічыць адзіны падатак з індывідуальных прадпрымальнікаў у сярэднім на 30 працэнтаў. Прапанова датычыць 27 асноўных відаў дзейнасці. Напрыклад, гандлю. За продаж нехарчовых тавараў давядзецца плаціць не 40 еўра, як цяпер, а – 60. У паўтара раза больш падатак! За гандаль селядцамі і морапрадуктамі – не 49 еўра, а 70, і гэтак далей.

Прадпрымальнікі лічаць, што – «з улікам дадатковай аплаты падатку за кожнага працаўніка па найме» – кошты на харчы і тавары рэзка павялічацца. А яны для большасці насельніцтва і сёння – занадта вялікія. Здзіўляе таксама тое, што прапануецца, каб падаткі павялічыў сваім рашэннем аблвыканкам. Хаця, паводле закону «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні», такое права належыць толькі сесіі абласнога Савету дэпутатаў.

Сяргей МАКСІМОВІЧ

ЭКСПРЭС

## Эканамічныя нататкі

### Колькі грошай адмываецца?

Па ацэнках экспертаў міжнароднай групы па барацьбе з адмываннем нелегальных прыбыткаў, штогод у свеце адмываецца ад 500 млрд. да 1,5 трлн. даляраў (дзеля параўнання, 500 млрд. – гэта штогадовы аб'ём эканомікі такой краіны, як Іспанія). Выканаўчы дырэктар згаданай групы адзначае, што апошнім часам злачынцы адыходзяць ад класічных спосабаў, такіх як перавозка ў кейсах дробных купюраў, і ўсё часцей скарыстоўваюць камп'ютэрныя махінацыі. Што да расійскага рэгіёну, хаця ён і знаходзіцца ў «чорным спісе» па гэтым пытанні, эксперты пазітыўна ставяцца да апошніх намаганняў ураду Расіі па барацьбе з адмываннем грошай і прагназуюць ёй выхад з гэтага спісу гады праз два.

### «Сталёвы» спіс для экспарту ЗША

На мінулым тыдні еўрапейская камісія распрацавала і накіравала ўрадам краін-удзельніц Еўрасаюзу спіс з амаль трох сотняў найменняў амерыканскіх экспартных тавараў, на якія могуць быць накладзеныя гандлёвыя санкцыі. Новыя тарыфныя стаўкі павінны кампенсаваць, у памеры 2,5 млрд. еўра, штогадовыя страты еўрапейскай сталеліцейнай прамысловасці ў выніку ўводу ЗША пратэкцыйных мераў па абароне свайго «сталёвага» рынку. У спіс унесены, акрамя сталі і вырабаў з яе, яшчэ і тэкстыль, фрукты, гадзіннікі, некаторыя віды зброі, мэбля, матацыклы. Еўрапейскія крыніцы сцвярджаюць, што ніводзін від тавару са спісу не адносіцца да «стратэгічных паставак» з ЗША. Паводле правілаў СГА, Еўрасаюз павінен азнаёміць урад ЗША са спісам да 20 траўня, а рэальна новыя тарыфы могуць быць уведзены ў сярэдзіне наступнага году.

### Сувязь трэцяга пакалення

Першую ў Еўропе сетку сувязі трэцяга пакалення (*3G*) запусціць фінская кампанія *Sonera* 26 верасня гэтага году. У той жа дзень *Nokia* выкіне на рынак партыю новых трубак. *Sonera* больш за іншых аператараў заплаціла за ліцэнзіі ў шэрагу еўрапейскіх краін, што разам склала каля 4 млрд. даляраў. Праграмнае забеспячэнне ўсталюе ўсё тая ж *Nokia*, у якой падпісана яшчэ 35 пагадненняў аб пастаўцы абсталявання для *3G*-сетак з іншымі еўрапейскімі аператарамі. Пра намер запусціць у гэтым годзе *3G*-сетку заявіла таксама кампанія *British Telecom*. Галоўнай перашкодай у гэтай справе апэратары бачаць брак тэлефонаў *3G*, якія пакуль што пастаўляе толькі японская *NEC*.

### Развітаемся з «зялёнымі»

Дзеля барацьбы з фальшывамамнетчыкамі, якія штогод паляпшаюць свае тэхналогіі, Міністэрства фінансаў ЗША плануе дадаць на банкноты крыху колеру. Прадстаўнікі бюро па выпуску грашовых знакаў і каштоўных папер абвясцілі, што памер, дызайн і партрэты на сапраўдных банкнотах не зменяцца. Гэтыя інавацыі будуць рэалізаваныя ў рамках плана міністэрства па змене дызайну банкнот кожныя 7-10 год (у 1996 годзе ён быў зменены першы раз за 80 год). Па прагнозах экспертаў, больш за ўсё ад гэтага страцяць уладальнікі вулічных гандлёвых аўтаматаў, якім давядзецца заплаціць мільёны даляраў за пераналадку абсталявання.

Андрэй КАРПОВІЧ

# Год 2015. Прыкрая будучыня РФ

## *Прагнозы аналітыкаў разведвальнай супольнасці ЗША*

*Напрыканцы 2000 г. Нацыянальная рада разведкі ЗША (National Intelligence Council) – найвышэйшы аналітычны орган амерыканскай разведвальнай супольнасці – апублікавала даследаванне «Глабальныя тэндэнцыі 2015: дыялог з няўрадавымі экспертамі». У працы над гэтым дакументам, падрыхтаваным пад эгідай ЦРУ, бралі ўдзел, акрамя прафесійных аналітыкаў разведкі, сотні няўрадавых экспертаў з дзесяткаў амерыканскіх навукова-даследчых установаў і буйных карпарацыяў. Можна лічыць, што ён адлюстроўвае шырокі кансенсус амерыканскай палітычнай эліты наконт перспектываў сусветнага развіцця на найбліжэйшыя пятнаццаць гадоў. Асобны раздзел адведзены Расіі, з якой інтэгруецца Беларусь.*



Расія, на думку амерыканскіх экспертаў, будзе заставацца галоўнай дзейнай асобаю на постсавецкай прасторы, – хоць будучая ўнутраная канфігурацыя Еўразійскага рэгіёну, яго геапалітычная дынаміка і ступень турбулентнасці як усярэдзіне былых савецкіх рэспублік, так і паміж імі ўяўляюцца даволі неакрэсленымі. Адноснае змяншэнне моцы Расіі, а таксама агульны недахоп рэсурсаў абмяжоўюць яе здатнасць дыктаваць сваю волю суседзям.

Унутраныя праблемы новых незалежных дзяржаваў застануцца вельмі сур'ёзнымі: неэфектыўнасць структурных эканамічных рэформаў, нізкая ў параўнанні з заходнімі стандартамі прадуктыўнасць сельскай гаспадаркі, дэградацыя навакольнага асяроддзя. Захаваецца высокі ўзровень карупцыі і арганізаванай злачыннасці, якую будуць паджыўляць гандаль наркотыкамі, адмыванне грошай і іншыя крымінальныя промыслы.

Расія страціць сваё значэнне вядучай дзяржавы ў гэтым рэгіёне, і да 2015 году Еўразія ператворыцца ў чыста геаграфічнае паняцце, пазбаўленае якіхколечы палітычных, эканамічных або культурных рэаліяў, якія б яго аб'ядноўвалі. Масква і яе найбліжэйшыя заходнія суседзі, працягваючы арыентавацца на Еўропу, будуць фактычна заставацца па-за ёю. Дзякуючы геаграфічнай блізіні і культурнаму сваяцтву Каўказ у палітычным плане зблізіцца перадусім з сумежнымі дзяржавамі, а былыя савецкія сярэднеазіяцкія рэспублікі – з Паўднёвай Азіяй і з Кітаем.

Цяжкім грузам, лічаць амерыканскія аналітыкі, будзе ціснуць на Расію і цяжар савецкай эканомікі. Разбурэнне яе інфраструктуры стане яшчэ адным фактарам, які пагоршыць становішча краіны. Працяглае занядбанне праблемаў аховы навакольнага асяроддзя і падзенне ўзроўню аховы здароўя ў спалучэнні з такімі сацыяльнымі выдаткамі пераходнага перыяду, як алкагалізм, наркаманія і сардэчнасасудзістыя захворванні, скароцяць колькасць насельніцтва. Паводле прагнозаў, да 2015 году ў Расіі будуць жыць 130–135 мільёнаў чалавек (цяпер – 146 млн.).

У макраэканамічных маштабах тэндэнцыя зніжэння валавага нацыянальнага прадукту (ВНП) Расіі, верагодна, спыніцца. Але краіне наўрад ці ўдасца да 2015 году інтэгравацца ў сусветную фінансавую і гандлёвую сістэму. Нават паводле самых аптымістычных сцэнарыяў, якія прадугледжваюць 5% гадавога эканамічнага росту, патэнцыял РФ будзе складаць усяго 20% ад амерыканскага.

У працы аналітыкаў разведсупольнасці ЗША багата сцэнарыяў будучыні расійскай дзяржавы: ад дэмакратычнага адраджэння да поўнага распаду. Аднак, як лічаць за акіянам, агульная тэндэнцыя мае напрамак да аўтарытарызму, хоць і не ў такім экстрэмальным выглядзе, які быў характэрны для савецкага перыяду. За гэткі шлях развіцця, на думку амерыканскіх даследчыкаў, прамаўляюць: асабістая прыхільнасць прэзідэнта Пуціна да іерархічнай сістэмы кіравання з Масквы; падтрымка насельніцтвам гэтага курсу як альтэрнатывы дэзарганізацыі грамадства, што існавала ў перыяд пераходу ад савецкай сістэмы; здатнасць кіраўнічай эліты бескантрольна трымаць уладу з прычыны адсутнасці колькі-небудзь эфектыўнай апазіцыі; працяг працэсу пераразмеркавання падатковых рэсурсаў з рэгіёнаў у цэнтр.

Гэтая тэндэнцыя да цэнтралізацыі ўлады, лічаць эксперты ЦРУ, адмоўна паўплывае на эфектыўнасць кіравання. У краіне з такімі памерамі і такой разнастайнасцю ўмоваў, як Расія, цэнтралізаванае кіраванне проста немагчымае.

У галіне знешняй палітыкі Масква будзе імкнуцца да аднаўлення страчанага ўплыву ў былых савецкіх рэспубліках на поўдні, наладжвання сувязяў у Еўропе і Азіі і набыцця ролі сур'ёзнага партнёра ў стасунках са Злучанымі Штатамі. Разам з тым унутраныя праблемы не дазволяць Расіі дамагчыся аднаўлення ранейшага статусу вялікай дзяржавы. Як апошняя прыкмета гэтага статусу ў яе застанецца толькі другі па велічыні ў свеце ядзерны патэнцыял.

Вось такія контуры будучыні Расіі бачацца экспертам амерыканскага разведвальнага і палітычнага істэблішменту. Самае галоўнае, з амерыканскага пункту гледжання, тое, што Расія ніколі ўжо не зможа кінуць выклік ЗША. Нават у найгоршым амерыканскім сцэнары Расія згадваецца толькі адзін раз, дый то мімаходзь – у гіпатэтычнай сітуацыі, калі Кітай, Індыя і РФ ствараюць нейкі геастратэгічны саюз як процівагу росту ўплыву Заходняй Еўропы і Злучаных Штатаў.

**Юлій КАБЯКОЎ, генерал-маёр Службы знешняй разведкі ў адстаўцы ng.ru**

# Санкцыі супраць Ізраілю

У сераду Еўрапейскі парламент ухваліў рэзалюцыю аб уводзе гандлёва-эканамічных санкцыяў супраць Ізраілю. За падтрымку рэзалюцыі прагаласавалі 269 парламентарыяў, 208 прагаласавалі супраць.

Паводле гэтай рэзалюцыі, ЕС прыпыніць дзеянне асацыяцыйнага пагаднення аб супрацоўніцтве з Ізраілем, якое забяспечвала апошняму шэраг гандлёвых ільготаў.



Рашэнне парламенту прадугледжвае таксама ўвод эмбарга на пастаўку зброі ў Ізраіль і Палесціну.

# Казахстанскае харакіры

У казахстанскім горадзе Карагандзе 28 вязняў следчага ізалятару № 16 учынілі акт масавага наўмыснага калецтва. У знак пратэсту супраць пераводу іх у калонію асуджаныя ў мінулы аўторак пад рэзалі сабе жывата завостранымі алюмініевымі лыжкамі.

Сярод удзельнікаў акцыі ніхто не загінуў. Сем чалавек адразу ж былі дастаўленыя ў лякарню, дзе атрымалі медыцынскую дапамогу. У сераду ранкам у лякарні засталіся толькі трое пратэстантаў, іх жыццю нічога не пагражае.

Па звестках ГУУС Карагандзінскай вобласці, усе ўдзельнікі акцыі былі асуджаныя за разбой, рабункі, крадзяжы і забойствы. Яны прыбылі ў СІЗО з розных рэгіёнаў рэспублікі і рыхтаваліся да пераводу ў калонію строгага рэжыму АК-159/7 у Далінцы Карагандзінскай вобласці.

# Чэхію бароняць усяго чатыры знішчальнікі

## *Іх хопіць толькі на тры гады*

Чэшскае войска напрыканцы сакавіка спісала 10 бамбардавальнікаў *Су-22*. У ваеннапаветраных сілах Чэшскай рэспублікі засталіся толькі чатыры ўзброеныя і падрыхтаваныя да палётаў знішчальнікі *МіГ-21*. Нованабытыя дагукавыя самалёты *L-159* яшчэ не ўзброеныя, а пра натаўскія «Грыпены» лётчыкі могуць толькі марыць.

«Гэта адзіныя самалёты, якія здольныя абараніць краіну», – сказаў міністр абароны Яраслаў Тврдзік. Парк самалётаў пакрысе дапаўняецца дагукавымі машынамі *L-159*, якія пакуль не абсталяваны зброяй. Паводле плану войска мусіць мець 72 такія самалёты, але вытворца – *Aero Vodochody* – паставіў іх пакуль толькі 36. Да таго ж большасць з іх увогуле не падымаецца ў паветра. Закуп гэтых самалётаў забірае большую частку вайсковага бюджэту. «Зразумела, што для абароны краіны гэтага мала, мы разлічвалі на машыны *L-159*, але сёння мы хутчэй выконваем план па спісанні самалётаў, чым па камплектацыі», – дадае Тврдзік.

Праграма камплектацыі ваенна-паветраных сіл тычыцца самалётаў *L-159* ды закупу звышгукавых знішчальнікаў *Jas-39 Gripen*. Чэшскае войска пазбаўлялася ад сваіх самалётаў паступова. Спачатку былі спісаны *МіГ-23*, пасля знішчальнікі *МіГ-29* абмянялі ў Польшчы на верталёты *Sokol*. Пачынаючы з кастрычніка паступова спісваліся і *Су-22*. Яны мусілі быць спісаны яшчэ напрыканцы 2001 году, але іх жыццё прадоўжылі яшчэ на тры месяцы. Астатнія самалёты, *МіГі-21*, праслужаць яшчэ тры гады.

**Паводле *Lidove noviny* падрыхтаваў Ілья Глыбоўскі**

# Польская Жакерыя

**Марцін КРУЛЬ, дэкан факультэту гісторыі Варшаўскага ўніверсітэту, выдавец часопісу для інтэлектуалаў «Рэспубліка Нова»**

*«Будзь дабраславёны... селянін, які родзіцца, есць і паміране, і аб справах якога ніхто не дбае». Так пісаў некалі Джузэпе Вердзі, італьянскі журналіст, больш вядомы, праўда, сваімі музычнымі творамі. Тое, пра што думаў Вердзі, было магчыма ў 19-м стагоддзі і цягам папярэдніх тысячы гадоў, але цяпер больш верагодна адваротнае. Напрыклад, у Польшчы сяляне не толькі хочуць крычаць на ўвесь свет пра свае справы – яны хочуць перарабіць Польшчу на свой капыл.*

У кнізе «*Век крайнасцяў*» Эрык Хобсбаум цвердзіў, што ў 20-м стагоддзі найвялікшай пераменай на Захадзе было рэзкае змяншэнне колькасці людзей, якія займаліся сялянскай працаю. Паўсюль, куды ні глянь, сяляне амаль paзнікалі.

Але не ў Усходняй Еўропе. Эканомікі савецкага ўзору, магчыма, і выдавалі сябе за ўвасабленне індустрыяльнай мадэрнізацыі, але ў большыні краін – былых сатэлітаў СССР марксісцка-ленінскае эканамічнае вучэнне прыкавала да сялянскіх падворкаў мноства людзей. У Польшчы ў нашы дні, калі краіна імкнецца стаць сябрам Еўрасаюзу, гэтая рэзервовая армія сялян – крыніца найбольш сур'ёзнага канфлікту ад часоў падзення камунізму.

Яшчэ багата людзей у большыні супольнасцяў жывіць амаль містычныя пачуцці да вольнай зямлі і тых, хто на ёй працуе. Але ў заходнім свеце зямлі ўрабляецца зашмат, і таму з'яўляецца лішак прадуктаў харчавання. Людзі гэта разумеюць, але іх усё яшчэ непакоіць паступовае знікненне сялянства.

Польскія сяляне, якія пасля 1989 году крыху шырэй зірнулі на свет, бачаць, што робіцца, і страшацца гэтага. А паколькі 38% насельніцтва Польшчы жыве ці працуе ў вёсцы, гэта стварае сур'ёзную палітычную праблему. І, здаецца, з ізняга цяжкога становішча не знайсці выхаду. Як і ўсе астатнія людзі, нашыя сяляне пры галасаванні кіруюцца сваімі страхамі і абіраюць сваімі прадстаўнікамі сялянскія партыі, якія лічаць, што палітычны пат – адзіны спосаб захавання польскага вясковага ладу жыцця. Ніякага сяброўства ў Еўрасаюзе, ніякай далейшай прыватызацыі, ніякай пенсійнай рэформы. Поўны штыль.

Містычнае стаўленне да зямлі грае ім на руку. Многія палякі ўважаюць, што яны не павінны прадаваць сваю зямлю іншаземцам, бо польская самабытнасць нейкім чынам зарыта ў польскай неўрадлівай глебе. Улічваючы гістарычную мінуўшчыну, няма нічога дзіўнага ў тым, што палякі не хочуць прадаваць зямлю немцам, і, на шчасце, мала хто з немцаў ёю цікавіцца. Але такая цікавасць ёсць у Галандыі, і некаторыя палякі дзіўным чынам падазраюць галандцаў у жаданні захапіць іхнюю краіну.

Нястрымна расце страх перад спекулянтамі, людзьмі, якія хочуць распрадаць Польшчу па частках. Поўная недарэчнасць, вядома. Пакупнікоў вельмі мала, бо польская зямля занадта неўрадлівая. Да таго ж усе думаюць, што краіна тут жа страціць сваю незалежнасць, калі фермы можна будзе прадаваць другім жыхарам Еўропы, – а гэта ж умова ўступу ў Еўрасаюз.

Пасля дэскрэдытацыі камунізму і аслаблення ўплыву каталіцызму сувязь зямлі з абаронай айчыны – разумовая, фізічная і нават духоўная – уяўляецца апошнім палітычным бастыёнам Польшчы. Пасля 1989 году палякі (як гэта здарылася і ў іншых посткамуністычных краінах) здабылі свабоду, але страцілі сваю нацыянальную самабытнасць, якая будавалася на агідзе да прыгнятальнікаў.

Вы, як і я, можаце шкадаваць аб такіх сацыяльных настроях, але міф пра польскага селяніна-аднаасобніка як пра героя, што стаіць на шляху камуністычнай калектывізацыі на сваім дробным прыватным надзеле, здаецца невыкараняльным, хоць ён і беспадстаўны. Насамрэч ад сялян і ў часы Салідарнасці было мала дапамогі, і цяпер яны – асноўная перашкода на шляху мадэрнізацыі.

Самае прыкрае, што можна сказаць пра сілы, якія цяпер прыводзяцца ў дзеянне польскімі сялянамі, – гэта тое, што яны цалкам негатыўныя. Палякі, страціўшы за апошнія дзесяць гадоў амаль усе свае патрыятычныя ідэі, цяпер, відаць, разважаюць, як бы ім зноў адкрыць сваю нацыянальную самабытнасць, прычым выключна на негатыўнай аснове, прапанаванай нашымі сялянамі. Яны кажуць: «Еўрасаюз хоча скрасці (або купіць за бесцань) нашую зямлю. Мы, палякі, павінны з імі змагацца».

Калі нацыянальны гонар патрабуе, каб уся зямля належала палякам, – а такім чынам развейваюцца ўсе мары пра ўступ Польшчы ў Еўрасаюз, – то Польшчы суджана стаць у будучыні гіганцкім музеем сялянства. Аднаконныя вазкі. Самотныя каровы, што пасвяцца на лугах. Свінні, якія прагна жаруць ежу з сямейнага стала. Можна будзе ўбачыць катэджы са спадарожнікавымі антэнамі, але вакол іх будзе раскідана салома, трэскі, паўсюль бруд, і вас будзе пераследаваць «водар» свойскай жывёлы. І тады, замест таго каб купляць польскія фермы і мадэрнізаваць іх, галандцы, немцы і датчане, а таксама турысты з іншых краін будуць наведваць фермы як свайго кшталту сельскі Дыснейлэнд: месца, дзе можна паглядзець, як выглядала далёкая мінуўшчына.

Яны будуць прыязджаць, даваць крыху грошай старасвецкім сялянам з крыху ідыёцкім выглядам, што ідуць за плугамі, у якія запрэжаны валы, і з'язджаць назад. Усведамленне гэтага можа раздражняць палякаў, але калі яны зробяць такі выбар, іх радзіма навечна асуджана быць крайнай трэцяга гатунку, хіба што крыху лепшай за найбяднейшыя краіны свету, але без ніякіх ілюзіяў наконт далейшага развіцця.

**© Project Syndicate, красавік 2002**

# Боства вайны

## *Шмат якія злачынствы апраўдваюцца вернасцю рэлігійным мроям*

*З глыбокай старажытнасці чалавечыя супольнасці для апраўдання ваенных дзеянняў выдумлялі багоў вайны. У вялізным шэрагу нябесных апекуноў зямной агрэсіўнасці стаяць Арэс – боства вераломнай вайны ў грэкаў, і іхняя ж Афіна Палада – багіня справядлівай вайны, Марс і сястра яго Белона – багі вайны ў рымскай міфалогіі, валькірыі – ваяўнічыя служанкі бога вайны Одзіна ў скандынаваў, Руевіт, Пярун, Рарог – багі вайны ў славянскіх плямёнаў. З цягам часу змяняліся імёны герояў – ад Ісуса Навіна, Давіда, Гектара да святога Георгія, якога да сёння шануе і каталіцкая, і праваслаўная Еўропа. Як ні дзіўна, ніколі ніводная рэлігія, апроч тыбецкай, не здолела паставіць перашкоду на шляху арганізаванага вынішчэння адных людзей іншымі.*



Дух вайны практычна заўжды перамагаў і перамагае рэлігійныя табу, калі меркаванні ваеннага поспеху маюць дастатковую вагу. Праўда, сёння з трох монатэістычных рэлігій (іудаізм, хрысціянства, іслам) толькі іслам прымае вайну як нармальную форму рэлігійнай дзейнасці для распаўсюджвання сваёй веры. Хрысціянства ў сваім пачатковым выглядзе, іудаізм у той форме, якую прынялі, маюць элементы пацыфізму, якія, аднак, звычайна лёгка саступаюць разлікам рэальнай палітыкі.

У 1957 годзе пасля пераможнай Суэцкай кампаніі Давід Бен-Гурыён сказаў пра Біблію, якая ляжала перад ім побач з ваеннымі картамі: «Вось мой падручнік вайны!» Ён знаходзіў у біблейскіх гістарычных сюжэтах інструкцыі да дзеяння. Габрэі, не вагаючыся, бралі з сабой у бітвы Стары Запавет. Кніга Другога Закону тлумачыць правілы вайны і вылучае неабавязковую, дазволеную і абавязковую вайну, якой кіруе Бог. Дарэчы, з гэтай канцэпцыі мусульмане развілі паняцце святой вайны – джыхаду.

Габрэйскім салдатам дазвалялася ў часе вайны з рэлігійнымі ворагамі парушаць правілы харчавання ды іншыя законы Майсея. Святыя і святочныя дні адмянялісца, а Боская вайна дазваляе нават «забіраць маладога са шлюбнага ложа».

Пасля разгрому Рымам ізраільскай дзяржавы і рассеяння ацалелых яе жыхароў па свеце габрэі доўгі час не вялі войнаў. Аднак старадаўнія законы, як яны трактаваліся рабінамі, дазвалялі габрэям ваяваць, не беручы непасрэднага ўдзелу ў бітвах. Прыкладам, якраз габрэйскія інтэнданты найбольш удала арганізоўвалі пастаўкі зброі і асабліва коней як для пратэстантаў, гэтак і для католікоў у часе Трыццацігадовай вайны. Еўрапейскія разгалінаванні Ротшыльдаў забяспечылі Вялікабрытаніі фінансаванне кааліцыі супраць Напалеона.

Але да вядомага Уладзіміра Жабацінскага, які адрадзіў ідэю сіяністкай арміі ў XX стагоддзі, габрэі як народ не ваявалі амаль два тысячагоддзі.

У хрысціянстве схільнасць да пацыфізму існавала з самага яго пачатку. Сам Хрыстос – безумоўны пацыфіст. Таму пачатковая хрысціянская царква распрацоўвала спецыяльныя правілы для хрысціянаў, якія служылі ў рымскіх легіёнах. Ваяваць у святыя дні лічылася за грэх. Калі ў XI стагоддзі царква намагалася цывілізаваць феадальную Еўропу, яна прапанавала ідэю Боскага замірэння, якое патрабавала ў пэўныя дні спыняць ваенныя дзеянні. У 1027 годзе сабор у Эльве забараніў пад пагрозай адлучэння ад царквы любыя ваенныя дзеянні з вечара суботы да ранку панядзелка. Але гэтая пагроза мала каго напужала.

У 1095 годзе папа Урбан II абвясціў Боскае замірэнне вечным царкоўным законам. Але менавіта ён дабраславіў Першы крыжовы паход, крывадушна назваўшы яго «паломніцтвам» дзеля вызвалення Гроба Гасподняга сілай малітвы. Войны, якімі суправаджалася гэтае паломніцтва, залілі крывёй гісторыю сярэднявечча. У той час на Святой зямлі ўзніклі некалькі манаска-рыцарскіх ордэнаў – гаспітальеры, Крыжовы ордэн (так званыя крыжакі з чырвонай зоркай), ордэн тампліераў, Тэўтонскі ордэн, а ў Партугаліі і Іспаніі ўтварыліся дзеля барацьбы з маўрамі ордэн Анісы, ордэн Алькантара, ордэн св. Якава Кампастэльскага ды іншыя, якія неслі слова Хрыста на вастрыях мечаў. У крыжовых паходах і войнах з арабамі рыцары вывучылі перадавыя на той час метады вядзення вайны і сталі скарыстоўваць іх на радзіме. Замкі Эдварда I Англійскага ў XIII стагоддзі былі збудаваныя на «сарацынскі» ўзор, каб трымаць у падпарадкаванні захопленых Уэльс. Кампанія царквы па забароне арбалета як жорсткай зброі не мела поспеху. Не здолела царква забараніць і агнястрэльную зброю.

Князі царквы заўсёды знойдуць магчымасць асвяціць агрэсію, калі вайна служыць нейкім царкоўным мэтам. Самыя жахлівыя злачынствы рэлігійных войнаў XVI стагоддзя здараліся чамусьці ў святыя дні. Тое ж было і ў XVII стагоддзі падчас Трыццацігадовай вайны. У XVIII стагоддзі Гайдн з суполкай іншых кампазітараў напісаў «Месу ваеннага часу» для выканання на ўрачыстых святах пакаяння і падзякі Богу.

Ваенныя алтары і помнікі, ваенныя магілкі з капліцамі і крыжамі даўно сталіся звычайным рэлігійным рэквізітам ва ўсіх краінах.

У XX стагоддзі было некалькі прыкладаў, калі на рэлігійныя свята перапыняліся ваенныя дзеянні. Гэтак здарылася на свята Божага нараджэння 25 снежня 1914 году, калі нямецкія і англійскія салдаты на лініі акопаў спынілі агонь, выйшлі на нейтральную тэрыторыю, віталіся і пілі за мір. Гэта быў імпульсіўны жэст стомленых баямі людзей, і ён быў асуджаны камандаваннем абодвух бакоў як здрада і забаронены надалей пад пагрозай расстрэлу.

У часе вайны паміж Іранам і Іракам, працяглай вайны ў Афганістане табу на ваенныя дзеянні ў святы дні ігнаравалася мусульманамі ўсіх напрамкаў.

Тэрарысты-самагубцы ў Ізраілі абіраюць для актаў тэрору якраз тыя дні, калі людзей супакойвае магія рэлігійнага свята. Расійскія войскі ў Чачні таксама лічылі магчымым адзначаць не толькі мусульманскія, але і праваслаўныя святы абстрэламі ці зачысткамі. Рэлігійныя пачуцці не перашкаджаюць трымацца брутальнай логікі вайны і тэрору.

Боскае прымірэнне не ўвайшло ў практыку жыцця, мноства людзей скарыстоўвае рэлігійныя святы для сатанінскіх радасцяў. Багі вайны, прыдуманыя для ўхвалення нашэсцяў, захопу, забойстваў, рабунку і жорсткасці, і сёння маюць мільёны шчырых вернікаў і не саступаюць розуму, міласэрнасці, сумленню, паглынаючы незлічоныя чалавечыя ахвяры.

**Па матэрыялах прэсы**

# Навука ў аблозе

**Жан-Мары ЛЕН,**
**Нобелеўскі лаўрэат па хіміі**

*Людзі, як сказаў французскі пісьменнік Веркор, – гэта «animaux denatures», або «жывёліны-перараджэнцы»: яны жывуць у прыродзе, але здатныя адначасова назіраць, даследаваць і ставіць яе пад сумнеў, усведамляючы сваю ад яе адасобленасць.*

Страх перад нашай страшэннай уладай над прыродай тлумачыць заклікі руху ў абарону навакольнага асяроддзя, у якіх – асабліва ў фундаменталісцкім, напаўрэлігійным варыянце так званай «глыбокай экалогіі» – малюецца вобраз «чыстай» па сваёй сутнасці Прыроды, гармонія якой нібыта парушана чалавекам.

Але прырода цалкам абыякавая да чалавека; у яе няма ніякіх маральных асноваў і ніякага маральнага кодэксу. Прырода проста ёсць. Мая галіна навукі, хімія, грае падставовую ролю ў нашай здольнасці працаваць над прыроднымі з'явамі, пераменяць іх і ствараць новыя формы. Прыродная рэчыву, аднак, няма прычыны быць менш атрутным за сінтэтычнае. Насамрэч сінтэтычныя рэчывы могуць аказацца больш бяспечнымі за натуральныя. Напрыклад, метадамі геннай інжынерыі з натуральных гармонаў росту чалавека быў атрыманы прыён, які выклікае хваробу Кройцфельда-Якаба, што стварыла магчымасць пераліваць крывь, не рызыкуючы заразіць пацыента ВІЧ-інфекцыяй.

Давайце праяснім: навука – гэта вынік тае ж эвалюцыі, якая спарадзіла людскі род і паступова зрабіла яго здатным адказваць за сябе і за навакольнае асяроддзе. Мы, людзі, у рэшце рэшт непазбежна паставім пад кантроль сваю ўласную эвалюцыю, і, паколькі свае сілы мы чэрпаем з прыроды, рана ці позна пачнём выкарыстоўваць гэтую набытую здольнасць на дабро ці на зло. У кожным з нас закладзена здатнасць відазмяняць і самога чалавека, і асяроддзе вакол яго.

Дык што ж з «чысцінёю жыцця»? Мы, людзі, лічым святасць жыцця аксіёмаю дзеля таго, каб захаваць свядомасць і думку, якія найперш і дазволілі сфармуляваць тую аксіёму. Ніякі прыродны закон не кажа жыццю шанаваць сябе: арганізмы жывяцца адзін адным. Асноўны сэнс святасці жыцця – у нашай здольнасці выходзіць за яго межы і ставіць пад сумнеў нашыя ўласныя творы.

Такім чынам, наш лёс – прадоўжыць пошук ведаў. І гэта наш абавязак. Мы не маем права аднойчы пастанавіць, што дасягнулі дастатковага ўзроўню навуковага прагрэсу, – бо не можам параіцца пра гэта з будучымі пакаленнямі; і наша шчасце, што нашыя папярэднікі не маглі нічога нараіць нам. Навука і тэхніка не нясуць, у рэшце рэшт, адказнасці за неахайнасць і марнатарства, якія слушна асуджаюць абаронцы навакольнага асяроддзя.

Наадварот, навуковы дух прапануе нам адзіную надзею на з'яўленне новых працэсаў і прадуктаў, якія знізяць рызыку, што суправаджае прагрэс чалавека, а тэхніка абяцае звесці да мінімуму залежнасць бедных краін ад вытворчасцяў, якія інтэнсіўна выкарыстоўваюць прыродныя рэсурсы. «Найкарацейшы шлях развіцця», які вядзе наўпрост да генератараў электрычнасці з энергіі сонца або атамнага ядра – замест электрастанцыяў на вугальным паліве, да высокаэфектыўных матэрыялаў – замест сталеліцейных заводаў, да сетак сотавых тэлефонаў – замест дарагіх сістэмаў стацыянарных ліній, відавочна прынёс бы нам карысць.

Нулявой рызыкі не бывае. Рызыка ўзнікае разам з жыццём. Нулявая рызыка – гэта мёртвы свет. Вось жа, рызыка прысутнічае ў кожным рашэнні, якое мы прымаем. Спробы пазбыцца рызыкі, забараняючы некаторыя галіны даследаванняў, здушылі б і свабоду чалавека. Мы павінны размяжоўваць небяспечнае і проста непрыемнае. Шклянка, напалову поўная для адных людзей, для другіх напалову пустая, але ад напоўненай паловы вы можаце адпіць, а з пустой паловаю нічога не зробіш (хіба што напоўніш яе).

На жаль, рызыку не заўсёды можна дакладна ацаніць, і навука сама па сабе не можа знайсці ўсіх адказаў. Рашэнні пра выкарыстанне навуковых адкрыццяў звычайна грунтуюцца на крытэрыях, якія не маюць з навукай нічога супольнага. Фабрыка можа функцыянаваць, не выдзяляючы непрыемных ці небяспечных выпарэнняў, але толькі калі мы гатовыя плаціць за гэта.

Вядома, магчымасці тэхнікі маюць больш вагі, чым эканамічныя крытэрыі. Усталяваўшы вадзяную помпу на сонечнай энергіі ў краіне, якая развіваецца, можна разбурыць традыцыйную структуру грамадства, заснаваную на кантролі за водазабеспячэннем. Падобным жа чынам сексуальнае сужыццё перад апладненнем можа, згодна з нядаўнімі даследаваннямі, выклікаць у жанчын імунную рэакцыю, якая значна скарачае пагрозу пагаршэння здароўя ў сувязі з цяжарнасцю, – напрыклад, з'яўлення гіпертаніі і канвульсійнай эклампсіі. Такія адкрыцці – напрыклад, развіццё бяспечных і эфектыўных метадаў кантрацэпцыі – відавочна пагражаюць рэлігійным забаронам, якія захоўваліся цягам вякоў.

Першы абавязак вучонага – пошукі новых ведаў незалежна ад прымхаў, якія пануюць у грамадстве. Этыка і законы мяняюцца і мусяць дастасоўвацца да новых абставін. Ніхнія змены ідуць з таго часу, як ідэалы веку Асветніцтва пачалі бурыць бар'еры забабонаў, цемрашальства і дэмагогіі, што абмяжоўвалі сферу свабоды чалавека. Гісторыю не перапішаш, і мы павінны працістаяць неразумнаму імпэту спыніць гэты працэс – зыходзіць той імпэт з бяздоння нашага невуцтва ці з пагрозы крызісаў. Мы павінны ісці шляхам, які вядзе да дрэва пазнання, калі хочам панаваць над сваім лёсам.

# Мінскі «Грунвальд»

*У Мінску не шмат месцаў, якія могуць пахваліцца арганічным спалучэннем традыцыяў і дасягненнямі сучаснасці, да таго ж яшчэ і выключнай кухняй. Кавярня-бар «Грунвальд» на вул. К.Маркса, мне падаецца, адно з іх. Тут вы зможаце замовіць беларускія дранікі, а таксама пакаштаваць італьянскія, французскія, шведскія ды нямецкія стравы. Сапраўдныя гурманы паласуюцца аладкамі з ікрой, кальмарамі ды сцягенцамі жабаў у цесце. Адныя назвы чаго вартыя: «Беларуская каралеўна», «Рэванш», «Каралеўскія слёзы», «Снежны барс», «Фандзю па-лютэранску», «Стары замак» ды інш.*

А пачыналася ўсё з маленькай антыкварнай крамы ў Мінску ды бара «Бегемот». Зараз ва ўласнасці фірмы – кавярні «Грунвальд», «Стары Менск», «Лондан».

Дарэчы, будынак, дзе месціцца «Грунвальд», таксама выбраны не выпадкова. У 19 ст. тут, на Падгорнай, знаходзілася рэстарацыя «Вальдшлексэн», якая славілася чэшскім ды нямецкім півам.

Пра ўсё гэта за каваю ў «Грунвальдзе» мне распавёў гаспадар Аляксандр Астрашэўскі. Як высветлілася, спадар Астрашэўскі і ягоныя калегі ў бізнесе ўжо шмат гадоў захопленыя гісторыяй рыцарства. Таму і назву для кавярні выбралі невыпадкова. З 1999 г. яны падтрымліваюць рыцарскія клубы «Княжы гуф», «Берасцейская харугва», «Жалезны воўк» з Полацку. Усе строі рыцары робяць сваімі рукамі. Для гэтага ў іх ёсць неабходныя інструменты і майстэрні. На выраб аднаго рыцарскага строя ідзе каля году. Таму строі, зробленыя рукамі сябраў беларускіх рыцарскіх клубаў, уражваюць польскіх ды чэшскіх энтузіястаў, якія не могуць сабе дазволіць столькі часу прысвяціць гэтай справе. Разам з сябрамі клубу спадар Астрашэўскі ездзіць на рыцарскія турніры ў Грунвальд, Навагрудак, Заслаўе.

«У 1997 годзе на месцы «Грунвальда» быў страшэнны брудны пад'езд. Мы зрабілі рамонт і адчынілі бар «Бегемот». Падчас рамонту часам даводзілася выклікаць ахову з сабакамі, бо мясцовыя жыхары чынілі сапраўдныя пагромы. Да гэтага часу з некаторымі даводзіцца ваяваць. Патрабаванні бываюць самыя розныя: паставіць ва ўсім доме шклопакеты, зрабіць мармуровы фасад. Раней я спрабаваў улагодзіць жыхароў дома. Запрашаў да нас, дапамагаў рабіць рамонт у кватэрах, але людзі працягвалі пісаць скаргі, і я перастаў гэта рабіць.

Памяшканне, дзе знаходзіцца кавярня, мы арандуем. Спрабавалі прыватызаваць гэтыя плошчы і пашырацца далей, але нам загнулі такія кошты, што ад гэтай мары давялося адмовіцца.

За некалькі гадоў кавярня займела кола сталых сяброў. У асноўным гэта ціхія, спакойныя людзі, якія прыходзяць сюды адпачыць. Кошты ў нас не малыя, таму заходзяць у асноўным людзі не бедныя. Наша правіла: чысціня, кветкі на кожным стале нават узімку і спакойная музыка. Тут вы не пачуеце расейскай папсы. Для вялікіх шумных кампаніяў, якія жадаюць папіць піва, у Мінску шмат іншых месцаў. Мы заўсёды дбаем, каб людзям, якія да нас заходзяць, было прыемна і ўтульна. Меню на пяці мовах, абслуга, якая валодае ангельскаю моваю. Прынцып тут вельмі просты: рабі так, як табе падабаецца. Я хачу працаваць тут, бо люблю Беларусь і нікуды з'язджаць адсюль не хачу.



Рыцарская суполка «Княжы гуф» у Грунвальдзе на былым полі знакамітай бітвы



Фота Ул. ШЛАПАКА

Калі выканкам прапанаваў нам паўдзельнічаць у сацыяльных праграмах, я сказаў: «Мы не будзем пералічваць грошы безадрасна», і мы ўзяліся за «Ветэранскі прытулак» на вул. Маякоўскага. Купілі абсталяванне, нанялі юрыста, які дае бясплатныя кансультацыі пажылым людзям. Апроч гэтага, кожную нядзелю мы ў «Грунвальдзе» бясплатна абслугоўваем шэсць чалавек. Гэта інваліды, пажылыя людзі, якіх нам рэкамендуе сацыяльны аддзел Ленінскага выканкаму. Яны атрымліваюць абед, часам ахвотным прапануем гарэлачкі ці віна. Аднойчы падабралася вясёлая кампанія бабулек, якія тут спявалі, танчылі. За два з паловаю гады мы такім чынам прынялі каля 700 чалавек», – распавядаў спадар Астрашэўскі.

А я згадала, як 8 верасня, напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, мы вячэралі ў «Грунвальдзе» з сябрамі з Беласточчыны ды Адамам Глёбусам. У той вечар на Кастрычніцкай плошчы ладзілі вялікае шоу ў падтрымку кандыдата Лукашэнкі, і ў цэнтры гораду нідзе не прадавалі алкагольныя напоі. У Глёбуса ў партфелі была пляшка, і мы завіталі ў «Грунвальд». Паліцы ў бары, дзе звычайна стаяць самыя розныя алкагольныя напоі, былі завешаныя газетамі.

Мы размясціліся ва ўтульнай залі, замовілі нешта да ціхенька налілі з глёбусавага партфеля. Так мы сядзелі, размаўлялі пра палітыку, пра заўтрашні дзень, пра літаратуру ды яшчэ шмат пра што. Тады Глёбус звярнуў нашую ўвагу на мужчыну, які толькі што завітаў у кавярню: «Гэта гаспадар». Гаспадар разгублена паглядзеў на паліцы, завешаныя газетамі, а потым папрасіў бармена наліць яму 50 грамаў віскі. Той пакруціў галавою: «Не магу, забаронена». Гаспадар азірнуўся навокал, паглядзеў на наведнікаў, якія папівалі сокі ды елі марозіва, падышоў да нас: «Слухай, Валодзя, гэта мае? Вярнуўся сёння з адпачынку, а мне ў маім уласным бары адмаўляюцца наліць віскі». Глёбус паўсміхаўся ды супакоіў гаспадара «Грунвальда»: «Проста ты ўжо не ў Барселоне, а ў Мінску».

**Валянціна ЛЕЦКА**

ФЭСТЫ

## Ажыў «Славянскі базар»

Распараджэннем прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі створаны аргкамітэт XI Міжнароднага фестывалю «Славянскі базар у Віцебску». Яго ўзначаліў віцэ-прэм'ер ураду Уладзімір Дражын. Намеснікамі Дражына сталі старшыня Віцебскага аблвыканкаму Уладзімір Андрэйчанка, дзяржсакратар Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі Павел Барадзін і міністр культуры Беларусі Леанід Гуляка. У аргкамітэт фестывалю ўвайшлі таксама вядомыя грамадскія і дзяржаўныя дзеячы.

Як паведаміў БелаПАНу дырэктар фестывалю «Славянскі базар у Віцебску» Радзівон Бас, творчая група дырэкцыі фестывалю ўжо падрыхтавала праграму свята, якая будзе прадстаўлена на разгляд аргкамітэту.

Чакаецца, што яго пасяджанне пройдзе ў 20-х чыслах красавіка. «Канкрэтна гаварыць аб праграме можна будзе толькі пасля яе зацвярджэння», – сказаў Бас. У той жа час, паводле яго слоў, у гэтым годзе захаваюцца традыцыйныя фестывальныя праекты: міжнародны конкурс маладых эстрадных выканаўцаў, фестываль дзіцячых канцэртных праграм, Дні нацыянальных культур Беларусі, Расіі, Украіны, «Горад майстроў».

Творчая група дырэкцыі фестывалю плануе запрасіць вядомыя тэатральныя трупы і вядомых рэжысёраў для ўдзелу ў тэатральным праекце «Славянскага базара ў Віцебску». Сярод новых праектаў фестывалю бягучага году Бас адзначыў запланаваны канцэрт артыстаў эстрады балканскіх краін.

Паводле слоў Баса, дырэкцыю фестывалю чакае вельмі напружаная праца: склад аргкамітэту зацверджаны на месяц пазней, чым гэта было ў мінулыя гады. Цяперашні Міжнародны фестываль мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску» пройдзе з 10 па 25 ліпеня.

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ**

НАГОДА ЎСПОМНІЦЬ

### 12 красавіка

**1832.** На рацэ Місісіпі згарэў амерыканскі колавы параход *Brandyvane*. Падчас здарэння загінулі 260 чалавек.

**1961.** Першы палёт чалавека ў космас. Фраза Юрыя Гагарына «Паехалі!», сказаная перад стартам касмічнага карабля, стала крылатай.

### 13 красавіка

**1743.** Нарадзіўся Томас Джэферсан, амерыканскі асветнік і трэці па ліку прэзідэнт ЗША, аўтар праекту дэкларацыі незалежнасці Паўночнай Амерыкі.

**1771.** Дзень народзінаў ангельскага вынаходніка Рычарда Трэвіціка, чалавека, які стварыў першы паравоз. У 1803 годзе ён праехаў на безрэйкавай паравой павозцы па вуліцах Лондану, а ў 1808 годзе ўдасканалены паравоз Трэвіціка пад назвай «Злаві мяне, хто можа!» з хуткасцю 30 км/г ужо ездзіў па кальцавой трасе па Юстан Роўд у ангельскай сталіцы. Праўда, паравоз важыў занадта шмат – аж 5 тонаў, ад чаго чыгунныя рэйкі ламаліся.

**1937.** У 40-гадовым веку памёр сваёй смерцю сатырык Ілля Ільф (Ілля Файнзільберг), які разам з Яўгенам Пятровым напісаў раманы «Дванаццаць крэслаў» і «Залатое цяля».

**1967.** Першы канцэрт гурту *Rolling Stones* за «жалезнай заслонай» – у краінах сацыялістычнага лагеру. Адбылося гэта ў Варшаве.

### 14 красавіка

**1912.** Патануў «Тытанік». Карабель водазмяшчэннем 46 тысяч тонаў і даўжынёй 275 метраў сутыкнуўся з айсбергам на шляху з Англіі ў Амерыку. Рэшткі «Тытаніка», раскіданыя па вялікай плошчы на 4-кіламетровай глыбіні, былі знойдзеныя ў 1968 годзе.

**1917.** Памёр Людвіг Заменгоф, польскі доктар-акуліст, які распрацаваў штучную мову эсперанта. Таксама ён апублікаваў слоўнікі і пераклады на эсперанта твораў сусветнай літаратурнай класікі.

**1927.** У шведскім горадзе Гётэборгу сышоў з канвееру першы аўтамабіль «Вольва».

**1930.** Скончыў жыццё самагубствам паэт Уладзімір Маякоўскі. Вось што пісала пра гэта Марына Цвятаева: «12 гадоў запар чалавек Маякоўскі забіваў у сабе Маякоўскага-паэта, а на 13-ы – паэт устаў і чалавека забіў...»

### 15 красавіка

**1452.** У мястэчку Вінчы ў тагачаснай Фларэнтыйскай рэспубліцы нарадзіўся Леанарда да Вінчы, культавая асоба эпохі італьянскага Адраджэння. Ён аўтар такіх славутых карцін, як «Джаконда» і «Тайная вячэра». Апрача таго, Леанарда да Вінчы быў архітэктарам і інжынерам. Ён вынайшаў шлюзы на каналах, паваротную сцэну для тэатру, зрабіў чарцяжы падводнай лодкі і парашута.



**1850.** Памерла францужанка Марыя Цюсо, стваральніца славутага Музею васковых фігур мадам Цюсо ў цэнтры Лондану.

**1912.** Нарадзіўся Кім Ір Сен, правадыр Паўночнай Карэі да 1994 году, бацька ідэяў чучхэ.

**1951.** У Лондане ўпершыню прайшоў конкурс «Міс Сусвету». Самае ж першае спаборніцтва прыгажунь адбылося ў 1888 годзе на бельгійскім курорце Спа. Што да конкурсаў прыгажунь у асобных краінах, то такі конкурс упершыню наладзілі ў Нямеччыне ў 1909 годзе. Самай пекнай была прызнаная 17-гадовая прадавачка цыгарэт.

### 16 красавіка

**1934.** У СССР уводзіцца ганаровае званне Героя Савецкага Саюзу. Першымі гэтае званне атрымалі лётчыкі, што бралі ўдзел у выратаванні экіпажу і пасажыраў парахода «Чалюскін».

**1972.** Памёр японскі пісьменнік Ясунары Кавабата, лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры (1968). Самыя вядомыя ягоныя творы – гэта аповесці «Звяры і птушкі», «Снежная краіна», «Возера», «Старая сталіца», раманы «Тысяча жураўлёў» і «Голас гор».

### 17 красавіка

**1607.** 21-гадовы Арман Жан дзю Плесі дэ Рышэлье высвячаны ў духоўны сан. Гэтак пачалася ягоная славутая кар'ера.

**1902.** Данія стала першай краінай у свеце, дзе адбіткі пальцаў пачалі выкарыстоўваць для вызначэння асобы злачынцы.

**1961.** Памёр першы прэм'ер-міністр незалежнага Конга Патрыс Эмеры Лумумба. Ягонае імя было прысвоена Маскоўскаму універсітэту дружбы народаў.

**1975.** Камуністычны пераварот у Індакітаі: армія «чырвоных кхмераў» Пол Пота ўвайшла ў сталіцу Камбоджы Пнампень.

Дыктатар, які ў маладосці два гады быў манахам, назваў краіну Кампучыяй і абвясціў будаўніцтва новага ладу, які суправаджаўся беспрэцэдэнтным тэрорам. Былі забіты 2 мільёны чалавек – чвэрць насельніцтва Камбоджы.

### 18 красавіка

**1535.** Дзень, калі была заснаваная сталіца Перу горад Ліма. Зрабіў гэта іспанскі канкістадор Франсіска Пісара.

**1778.** Джэймс Кук у часе свайго трэцяга кругасветнага падарожжа адкрыў у цэнтры Ціхага акіяну вялікі архіпелаг, які ён назваў Сандвічавымі астравамі (цяпер Гавайскія). Якраз тутэйшыя абарыгены і з'елі Кука.

Падрыхтаваў
**Кірыла ПАЗЬНЯК**

# Тадэвуш Булгарын – Валенрод з Узды

У паэме «Тарас на Парнасе» ёсць колькі радкоў, прысвечаных знакамітаму ў свой час літаратару:

*Гляджу сабе – аж гэта сіва,*
*Каротькі, тоўсты, як чурбан,*
*Плюгавы, дужа некрасівы,*
*Крычыць, як ашалелы, пан.*

У гэткім ідыёцкім выглядзе паўстае перад чытачом знакаміты пецярбургскі літаратар і журналіст Булгарын у тую хвіліну, калі па волі аўтара пхнецца на Парнас. Затое:

*- «сам Пушкін, Лермантаў, Жукоўскі*
*і Гогаль шпарка каля нас*
*Прайшлі, як павы, на Парнас».*



На падставе гэтых не надта таленавітых параўнанняў цэлая чарада беларускіх літаратуразнаўцаў вызначала, што «Тарас на Парнасе» ў сатырычнай форме адлюстроўвае ідэйную барацьбу ў рускай літаратуры 1820–1850 гадоў. Булгарын апынуўся сярод «рэакцыянераў-кансерватараў, заўзятых абаронцаў самадзяржаўнага ладу». Сустракаюцца і больш жорсткія характарыстыкі: «адыёзная фігура», «даносчык», «царскі халуй», «дзялок ад літаратуры» і да т.п.

Літаратурныя спрэчкі Булгарына з Пушкіным зрабілі з яго ў беларускай гісторыі асобу нон грата. Па сённяшні дзень у нас наважыўся на даследаванне яго жыцця і яго творчасці толькі кандыдат філалогіі, вядомы журналіст Аляксандр Фядута, хоць спіс рускай і польскай «булгарыніяны» налічвае сотні назваў. Адсутнасць цікавасці да асобы неардынарнага земляка – найменшая з несправядлівасцяў, якія ён зазнаў. Недарэчны стэрэатып «ашалелага пана» ўбіваецца ў галовы вучняў і на ўсё жыццё адбівае ахвоту пацікавіцца, што ж за чалавек быў Булгарын на справе. Ні ў школьных падручніках, ні ў энцыклапедычных даведніках ніколі не пішуць сапраўднага імя «рэакцыянера», а карыстаюцца рускай калькай – Фадзей Венедзіктавіч Булгарын, што засланяе істотныя моманты яго біяграфіі.

Булгарын нарадзіўся ў 1789 годзе і пры хрышчэнні ўва Уздзенскім касцёле атрымаў імя **Ян Тадэвуш Крыштаф**. Бацьку яго звалі **Бенедыкт**. Бацька будучага пісьменніка і ўдачлівага журналіста трымаўся рэспубліканскіх поглядаў, быў знаёмы з Касцюшкам і ў ягоны гонар даў сыну імя Тадэвуш. За ўдзел у паўстанні Бенедыкт Булгарын зведаў вязніцу, аднак нечаканая амністыя імператара Паўла паўстанцам прынесла яму волю.

*«Родился я,* – пісаў Булгарын для рускага чытача, – *в бывшем Минском воеводстве бывшего Великого княжества Литовского, в котором предки мои издревле были княжескими боярами, имевшими одно значение с древними боярами русскими, в имении Перышеве, принадлежавшем матери моей, урожденной Бучинской (герба Стремя)».*

У «*Воспоминаниях*» сваё паходжанне і этнічную прыналежнасць Тадэвуш Булгарын фармулюе гэткім чынам:

*«Я принадлежу к древнему боярскому роду, поселившемуся в Западной России от незапамятных времен. Предки мои были старшины из славянского племени Булгар, и переселились на Русь Белую, то есть вольную, не подлежащую владычеству монголов, гораздо раньше соединения Литвы с Польшею...Сперва были два гнезда наши, в Волковысском уезде и в Новогрудском воеводстве, а теперь Новогрудская линия кончилась на мне»* (у Булгарына былі дочкі).

Дарэчы будзе заўважыць, што ў нашай школе на ўроках гісторыі па сённяшні дзень тлумачаць паходжанне назвы Белая Русь колерам адзення.

Ва ўспамінах і ў раманах Булгарына («*Иван Выжигин*», «*Пётр Выжигин*», «*Дмитрий Самозванец*», «*Мазепа*») рассыпана мноства ўзгадак пра Навагрудскае ваяводства і беларускія землі (Віцебшчыну і Полаччыну). Наогул, яго творы насычаны цікавымі звесткамі пра старасвецкія звычаі, і можна толькі пашкадаваць, што сённяшні чытач пазбаўлены магчымасці імі скарыстацца. А свайму бацьку, маці, сёстрам і прабабцы, якая пражыла 114 гадоў, ён прысвяціў такія пранікнёныя словы памяці і ўдзячнасці, якія рэдка сустракаюцца ў літаратуры.

Проза Булгарына захоплівае вострымі сюжэтамі і энергіяй, закладзенай у слова, ва ўсялякім разе нават сёння чытаць яго раманы непараўнальна больш прыемна і цікава, чым творы ягоных крытыкаў і шматлікіх «нерэакцыянераў».

Сярод расійскіх літаратараў, здольных не прымаць на веру штампы, выпрацаваныя ў злосных палеміках, найбліжэй падышоў да разгадкі характару Булгарына Уладзімір Адоеўскі, выключны па таленце чалавек, аўтар «Гарадка ў табакерцы», вядомы крытык і эстэтык. У 1864 годзе, калі душылі паўстанне ў Беларусі і ў Польшчы, Адоеўскі ў артыкуле для часопіса «*Русский архив*» патлумачыў феномен Булгарына як новага Конрада Валенрода ў расійскім асяроддзі, маючы на ўвазе паэму Міцкевіча пра анямечанага тэўтонцамі ліцвіна, які ніколі не забываў абавязку перад сваёй радзімай і не прыняў сэрцам крыжацкага ордэна, дзе яму выпала стаць магістрам.

У такім кантэксце жыццяпіс і справы Булгарына зразумелыя больш, чым у плоскім асвятленні «рэакцыйнасці», «халуйства» і непрыняцця ім Пушкіна. Дый сварку з Пушкіным ініцыяваў сам Аляксандр Сяргеевіч, які абвінаваціў Булгарына ў крадзяжы сюжэту «Барыса Гадунова» для рамана «*Дмитрий Самозванец*». Несправядлівасць папрокаў была адразу прызнаная крытыкамі і чытачамі, дый не магло быць інакш, бо ў Булгарына іншая канцэпцыя, іншы талент і іншы погляд на паходжанне Самазванца. Такое бруднае абвінавачанне і сёння паклала б канец паважлівым стасункам паміж любымі двума пісьменнікамі.

Булгарын быў чалавек ганарлівы і адказаў Пушкіну лістом:

*«С величайшим удивлением услышал я, будто вы говорите, что я ограбил вашу трагедию «Борис Годунов», переложил ваши стихи в прозу и взял из вашей трагедии сцены для моего романа. Александр Сергеевич! Поберегите свою славу! Что скажет публика? Вы должны будете доказывать... Неужели обрабатывая один (по именам только) предмет, надобно непременно красть у другого? У кого я что выкрал?»*

Больш крыўднымі для Булгарына былі кпіны А.Пушкіна з прозвішчаў-характарыстык рамана «*Иван Выжигин*», хоць гэткі ж прыём скарыстоўвалі і Грыбаедаў (напрыклад, палкоўнік Скалазуб), і Гогаль (Каробачка, Манілаў). Булгарын помсліва абвінаваціў Пушкіна ў тым, што ён пахваляецца сваім «*происхождением от негритянского принца, тогда как дознано, что «принц» куплен был пьяным шкипером в одном из портов за бутылку рома*». Менавіта гэтая абраза натхніла Пушкіна напісаць «Маю радаслоўную», а ўцягнуты ў канфлікт творцаў цар Мікалай I прыняў бок аўтара «Анегіна» і хацеў закрыць газету Булгарына «*Северная пчела*». Аднак Пушкін моцна перабольшыў недахопы рамана Булгарына. «*Ивана Выжигина*» адразу пераклалі на французскую, польскую, італьянскую, нямецкую, англійскую, літоўскую мовы, а ў Расіі раман перавыдаваўся тройчы запар.

Варта адзначыць і яшчэ адну падставу для ўзаемнай нелюбові. У 1830 годзе пачалося паўстанне ў Польшчы, Літве і Беларусі. Пушкін у сваіх ацэнках зусім не абуджаў «*милость к падшим*», а проста наадварот – заклікаў «*отмстить неразумным*» палякам. У Булгарына ж сярод паўстанцаў было шмат прыяцеляў; там, дзе душылі паўстанне, была яго страчаная і падзеленая радзіма, мінулае роду.

Не па сваёй волі яму давялося авалодваць рускай культурай і жыць у асяроддзі, дзе яго лічылі за выскачку.

У кнізе «*Воспоминания*» ён падрабязна апісвае, як сям'ю падкуплены суд пазбавіў маёнтка, як уначы бацькі і дзеці цягнуліся па дарозе да сваякоў. У адзін момант сям'я збяднела, і маці адвезла Тадэвуша ў Пецярбург, дзе праз знаёмых, найперш кампазітара Восіпа Казлоўскага, ёй удалося ўладкаваць сына ў кадэцкі корпус. Там, не ведаючы рускай мовы, ён зведаў шмат здзекаў і ад выхавацеляў, і ад таварышаў. Булгарын з гонарам піша, што яму далі мянушку Касцюшка, а старэйшыя кадэты вырашылі ахрысціць малога каталіка ў «рускую веру», што і выканалі ў дзень лазні, скінуўшы яго голага з другога паверху ў «рускі» сумёт. «Хрышчэнне» каштавала Булгарыну шасці тыдняў хваробы.



Уздзенскі касцёл (цяпер тут РДК)

З корпусу ён выйшаў карнетам на ўланскі полк, прымаў удзел у напалеонаўскай і шведскай кампаніях, за бой пад Фрыдландам у 1807 годзе атрымаў ордэн св. Ганны. Вострая эпіграма на вялікага князя Канстанціна, а па іншых звестках – на камандзіра палка, каштавала яму арышту, пераводу ў Кранштацкі гарнізон, потым у драгунскі полк, адкуль яго адправілі ў адстаўку ў 22 гады, нібыта за дрэнную службу. Вось гэтак скончылася яго расійская ваенная кар'ера. Булгарын, не маючы сродкаў, паехаў у Парыж і, як бальшыня беднай беларускай, літоўскай і польскай шляхты, апынуўся ў легіёнах Дамброўскага, якія Напалеон скарыстоўваў для вайны ў Іспаніі.

Капітанскія эпалеты і ордэн Ганаровага легіёну, якім узнагародзіў яго Напалеон, сведчаць, што «ашалелы пан» вызначыўся ў баях. У 1814 годзе ён патрапіў у палон да прусакоў, абмен палоннымі вызваліў яго, і Булгарын прыязджае ў Вільню. Тут ён знайшоў аднадумцаў у Таварыстве шубраўцаў («Таварыства прайдзісветаў»), шмат піша па-польску і друкуецца ў газеце таварыства «Вулічныя весткі». Улады глядзелі на таварыства схільных да сатыры і гумару «прайдзісветаў» падазрона і закрылі яго, а неўзабаве – і яго філамацкае адгалінаванне. Таму ў 1821 годзе Булгарын пераязджае ў Пецярбург. Пагалоскі, што ён – напалеонаўскі капітан, удзельнік паходу на Расію і бітваў з расійскім воінствам, часта навісалі над ім цёмнай хмарай. Яго блізкімі сябрамі былі Рылееў, Бястужаў, якія першымі пераклалі яго на рускую мову, Грыбаедаў, забароненую п'есу якога «Гора ад розуму» Булгарын надрукаваў у сваім часопісе «*Русская Талия*»... Распачатыя ім газетныя выданні аказаліся найбольш паспяховымі ў Расіі і прынеслі яму дастатак.

Падставы літаратурных нападаў Булгарына на «дэмакратычных» пісьменнікаў не даследаваліся. Між тым не Пушкін, а Булгарын быў у Рылеева напярэдадні паўстання дзекабрыстаў і забраў у яго небяспечныя паперы. Гэта яго арыштавалі па даносе Ваейкава, а не каго іншага з ягонай віны. Апошнім ударам па надзеях пачуцца ў Пецярбургу не чужым было жорсткае здушэнне паўстання ў Варшаве, дзе загінула шмат яго знаёмых і сяброў па легіёне.

Безумоўна, па сіле літаратурнага таленту Булгарын не можа зраўнацца з Пушкіным ці Гогалем. Але і ім немагчыма параўняцца з ім паводле прыжыццёвага ўплыву на грамадства. Яго кнігі ўспамінаў адкрылі шырокаму рускаму чытачу незнаёмы дагэтуль лад жыцця ў Навагрудскім ваяводстве, у Беларусі, погляды аўтара на гісторыю Русі і Рэчы Паспалітай, непадобныя да звычных расійскіх трактовак. Для многіх ён наогул стаў асветнікам, прываблівшы сваімі «круцельскімі» раманамі да чытання.

Магчыма, знойдзецца і ў нас даследчык, які намалюе псіхалагічны і творчы партрэт Тадэвуша Булгарына добразычліва, а не ў святле помсты за пакрыўджаных ім геніяў. Яны самі за сябе стаяць сваімі творамі, а ён за сябе пастаяць не можа, бо яго творы наўмысна выціснулі з ужытку. Наколькі ведама, «Беларускі кнігазбор» рыхтуе кнігу выбранага Булгарына. Відаць, мы становімся больш відушчымі.

**Канстанцін МАТУСЕВІЧ**




Некалі тут быў маёнтак, у якім нарадзіўся Ян Тадэвуш Булгарын

**ПРЭЗЕНТАЦЫІ**

## Новы альбом ад «Нейра Дзюбеляў»

У Парк-клубе «Мінск» 12 красавіка адбудзецца прэзентацыя чарговага альбома гурта «Нейра Дзюбель». Тое, што гурт спяваў па-беларуску адну песню, «Забі амерыканца», ягоныя прыхільнікі ўжо чулі. Аднак Аляксандр Кулінковіч, саліст гурта і аўтар тэкстаў, не спыняецца на дасягнутым і піша яшчэ тры песні па-беларуску, якія ўключаны ў альбом, ужо адзінаццаты па ліку, пад назвай «Праўдзівыя гісторыі пра тое, як у Карлсана скралі камбінезон».

– ***Чым адрозніваецца новы альбом ад папярэдніх, ці ёсць нейкія новыя тэндэнцыі?***

– Адрозніваецца ён вельмі моцна, і па гуку, і самой канцэпцыяй, і нават складам (грае новы гітарыст Алег Громаў). Не скажу, што стаў ён цяжкім, як слэер, але дастаткова пацяжэў. У ім з'явіліся песні на беларускай мове. Але нічога не змянілася ў падачы тэкстаў, яны як былі дурныя, так і не сталі падобныя да вершаў Рыгора Барадуліна. Паколькі назва «Карлсан» нібыта дзіцячая, дык ёсць песенькі пра дзіцячы персанаж, пакемонаў і тэлепузікаў, дарослай мовай. У альбоме 17 песень, перад кожнай ёсць вершык, у адрозненне ад мінулых альбомаў, дзе іх усяго тры-чатыры.

– ***Многія цяпер звяртаюцца да англійскай, рускай мовы, а вы – да беларускай.***

– Мы вельмі спадзяёмся, што ў канцы гэтага году выпусцім цалкам беларускамоўны альбом. Беларусь – наша радзіма, а грамадзянская пазіцыя наша дакладна акрэсленая.

– ***У адным з вашых альбомаў нават падлічана, колькі нецэнзурных словаў вы скарысталі. Што наконт гэтага альбома?***

– На 17 песень будзе адна песня з цалкам нецэнзурным прыпевам, і яшчэ нецэнзурнае слова ў адной з песень. Альбом будзе амаль прыстойным. Ён зусім не кан'юнктурны, робячы яго, мы арыентаваліся толькі на беларускую публіку і на сябе.

– ***Тое, што адбываецца на сцэне падчас канцэрту, задумваецца загадзя?***

– Не, гэта экспромт, стыль гурта. Спецыяльныя задумкі да канцэрта, можа, былі пару разоў. Увосень на канцэрце мы рассыпалі белы парашок з канвертаў на гледачоў, калі гэта было яшчэ актуальна.

– ***Ёсць у вас цудоўная пляшачка – неад'емны атрыбут выступу. Што ў ёй?***

– Я люблю трэсці пляшкай на гледачоў, на каго патрапіла, той ведае, што там.

Гутарыла **Ірына ТОЎСЦІК**

# Нашы ў космасе

*Хоць з нагоды Міжнароднага дня авіяцыі і касманаўтыкі, што адзначаецца 12 красавіка, у Беларусі гавораць збольшага пра самалёты, да асваення космасу мы дачыненне – і не абы-якое – усё ж маем. Тое, што сярод амаль паўтысячы жыхароў планеты, якім выпала пабываць у космасе, ёсць два беларусы, ведаюць у нашай краіне многія. Ведаюць таксама і іхнія імёны – Уладзімір Кавалёнак і Пётр Клімук. Але хто з іх злятаў у космас першым і калі гэта было, шмат хто адказаць не можа.*



Пётр Клімук



Уладзімір Кавалёнак

Дык вось жа – першым касманаўтам Беларусі стаў Пётр Клімук. Ён выправіўся ў касмічны палёт 18 снежня 1973 году камандзірам карабля «Саюз-13». Вось яна, дата першага палёту беларусаў у космас. Пётр Клімук правёў тады далёка ад Зямлі 7 дзён 20 гадзін 55 хвілін і 35 секунд. Потым наш першы касманаўт пабываў у космасе яшчэ двойчы – у 1975 і ў 1978 гадах. Усяго ў космасе Клімук правёў 78 сутак 18 гадзін 18 хвілін і 42 секунды.

Калі першынство ў асваенні беларусамі космасу належыць Пятру Клімуку, то часу там больш правёў другі наш касманаўт, Уладзімір Кавалёнак. За тры, як і Клімук, рэйсы ён налятаў больш як паўгода – 216 дзён 9 гадзін 9 хвілін і 40 секунд. Першы раз атрымалася нядоўга – з 9 па 11 кастрычніка 1977 году ў якасці камандзіра карабля «Саюз-25». Той палёт прайшоў няўдала і быў спынены датэрмінова: праграма палёту прадугледжвала працу на борце арбітальнай станцыі «Салют-6», аднак прыстыкаваць карабель да яе не ўдалося. Не з віны касманаўтаў, бо інакш бы Уладзімір Кавалёнак больш у космасе не апынуўся. Праўда, па тэлебачанні тады савецкаму народу распавялі, што палёт прайшоў удала і касманаўты свае заданне выканалі.

З савецкіх касманаўтаў, якія лялялі ў космас, Клімук быў 28-м па ліку, Кавалёнак – 40-м. Што цікава, у 1978 годзе абодва нашыя касманаўты сустрэліся ў космасе і паціснулі адзін аднаму рукі. На борце той самай станцыі «Салют-6» на гэты раз пасля ўдалай стыкоўкі экіпаж касмічнага карабля на чале з Уладзімірам Кавалёнкам пряняў дзве міжнародныя экспедыцыі. У адной з іх – савецка-польскай (ці беларуска-польскай) – быў Клімук. Дарэчы, падчас таго 140-сутачнага палёту Кавалёнак на 2 хвіліны выходзіў у адкрыты космас.

Адкуль жа родам беларускія касманаўты? Часовую беларускую прысутнасць у касмічнай прасторы, а на дваіх Клімук і Кавалёнак налялі 10 месяцаў, забяспечылі адпаведна Міншчына і Берасцейшчына.

Уладзімір Кавалёнак вядомы ў Беларусі яшчэ тым, што напачатку 1990-х, калі дзяржаўным сцягам нашай краіны быў зацверджаны бел-чырвона-белы, якраз другі беларускі касманаўт, на той час дэпутат, урачыста ўнасіў яго ўпершыню ў залю Вярхоўнага Савету.

Звычайна пра Клімука і Кавалёнка згадваюць з нагоды Дня касманаўтыкі і авіяцыі. Але ў 2000 годзе пра першага нашага касманаўта гаварылі яшчэ ў сувязі з некалькімі крадзяжамі. Улетку таго году ў вёсцы на Берасцейшчыне з музею касманаўтыкі, што знаходзіцца ў будынку мясцовай школы, скралі перададзеныя туды Клімуком рэчы – касмічны скафандр і гідракамбінезон. А неўзабаве ў Зорным гарадку ў яго ўгналі джып «Гранд-Чырокі». Цяпер і Пётр Клімук, і Уладзімір Кавалёнак, паколькі іхняя радзіма – дзяржава не касмічная, працуюць у авіяцыйна-касмічнай галіне па-за межамі Беларусі, прычым кіруюць вядомымі ва ўсім свеце ўстановамі. Першы з іх, напрыклад, – начальнік Цэнтру падрыхтоўкі касманаўтаў імя Юрыя Гагарына ў Зорным гарадку.

**Кірэй МАНУЙЛА**

## Хроніка авіякатастроф

У незалежнай Беларусі сур'ёзных авіякатастроф, дзякуй Богу, не было. Адно што кожны год фіксуецца па некалькі дзесяткаў так званых аварыйных сітуацыяў ці то ў паветры, ці то на ўзлётных палосах, але ад непаладак удаецца ўчас пазбавіцца. Як гэта было напрыканцы 2000 году, калі ў самалёта, што ішоў на пасадку ў аэрапорце «Мінск-2», раптам выявілася невялікая няспраўнасць у сістэме выпуску шасі. Аднак усё абышлося. Яшчэ можна згадаць пра збіты ў 1998 годзе над Шры-Ланкой у часе тамтэйшай грамадзянскай вайны самалёт *АН-24* кампаніі «Гомельавія».

Усе гучныя авіятрагедыі адбыліся ў савецкі перыяд. У 1979 годзе над украінскім горадам Днепрапятроўскам сутыкнуліся два самалёты, адзін з якіх трымаў курс на Мінск. У ім ляцелі футбалісты ташкенцкага «Пахтакору», каб згуляць у беларускай сталіцы матч чэмпіянату СССР з мінскім «Дынама».

А ў 1980 годзе пад Мінскам упаў самалёт, што толькі-толькі вылецеў у тагачасны Ленінград. Пасля ўзлёту прайшло ўсяго некалькі хвілін. На борце знаходзіліся студэнты геаграфічнага факультэту Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэту. Нарэшце, у 1986 годзе з прычыны дрэнных метэаралагічных умоваў у Нямеччыне разбіўся беларускі самалёт *Ту-134*.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

# Беларусь закупляе «Боінгі»

*Нагадаем, што з 1 красавіка ніводзін самалёт, які па ўзроўні шуму перавышае 95 дэцыбелаў, не можа лятаць у небе краінаў Еўрасаюзу. Наша «Белавія» ў выніку «пазбавілася» некалькіх дзесяткаў самалётаў. А з 2006 году над Еўропай мусяць лятаць самалёты яшчэ менш шумныя, чым дазволена зараз. Выснова адна – беларускаму авіяцыйнаму парку неабходнае абнаўленне.*

**Даведка НАШАЙ СВАБОДЫ**

У касе Нацыянальнага аэрапорту «Мінск» нам паведамілі, колькі каштуюць квіткі на некаторыя рэйсы. Так, да Лондану і назад у Мінск грамадзяне нашай краіны змогуць даляцець за 632 тысячы рублёў, замежнікі – за 556 даляраў, да Прагі і назад – за 400 даляраў (для ўсіх), да Варшавы – за 141 даляр (таксама для ўсіх). Апрача таго, у гэтых гарадах пасажырам давядзецца сплаціць мясцовыя аэрапортавыя зборы ў памеры адпаведна 39, 13 і 10 даляраў плюс 6 даляраў страхоўкі. Да Масквы квіток на самалёт каштуе 235 тысяч рублёў, да Гомеля – 10 тысяч.




Пачалася ўся гісторыя з шумамі з падпісання 30 гадоў таму дадатковых пратаколаў да Чыкагскай канвенцыі: з таго часу было дакладна вядома, што рана ці позна абмежаванні на шумныя самалёты пачнуць дзейнічаць. Аднак Савецкі Саюз працягваў далей распрацоўваць і будаваць самалёты, якім было наканавана трапіць у будучы «чорны спіс» на абмежаванне пералётаў. У 1990 годзе Міжнародная арганізацыя грамадзянскай авіяцыі (ІКАО) прыняла рашэнне аб неабходнасці ўвядзення такіх абмежаванняў, якія і ўступілі ў дзеянне ў Еўрапейскім Саюзе з гэтага красавіка. А ў аэрапортах асобных краінаў і яшчэ раней. Як, напрыклад, у Франкфурце, дзе нашым самалётам ужо летась было забаронена прызямляцца па выходных і ў святочныя дні.

Паркі беларускіх авіякампаніяў укамплектаваныя выключна тэхнікай расійскай вытворчасці і, як кажуць самі авіятары, былі непадрыхтаваныя да такіх жорсткіх забаронаў. Усё як заўсёды «здарылася вельмі нечакана». Адразу пачалі ладзіцца перамовы з Еўрапейскім камітэтам па паветраным транспарце, якія прынеслі толькі адну палёгку: на «шумных» самалётах дазволена рабіць адно чартарныя рэйсы і толькі на гэты сезон. Аднак усе рэгулярныя (рэйсавыя) паветраныя перавозкі на іх усё роўна мусяць быць скасаваныя. Гэта тычыцца самалётаў *ТУ-134* і *ТУ-154*. З «няшумных» самалётаў «Белавія» мае толькі чатыры *Ту-154М*. Самалёты з максімальнай масай да 32 тонаў – такія, як *ЯК-40* ці *АН-24*, – пад дзеянне канвенцыі ўвогуле не падпадаюць, таму лятаць на іх у еўрапейскія краіны дазволена.

«На такіх маршрутах, як у Лондан, Рым, Вену, Парыж, Стакгольм, мы рабілі палёты як на самалётах *ТУ-154М*, так і на *ТУ-134*, у залежнасці ад загрузкі і попыту, – кажа генеральны дырэктар кампаніі «Белавія» Анатоль Гусараў. – Прычым, калі ў зімовы перыяд у эксплуатацыі былі больш *ТУ-134*, то летам – самалёты *ТУ-154М*. Сёння мы пазбаўленыя магчымасці такога манеўру. І па маршрутах, дзе мы плануем захаваць сваю прысутнасць, лятаем на самалётах *ТУ-154М*, якія праходзяць па ўсіх сучасных патрабаваннях і будуць адпавядаць ім да 2006 году».

На ўсе маршруты «прахадных» самалётаў у «Белавіі» не хопіць, таму ад некаторых з іх ужо зараз адмовіліся, а ад некаторых давядзецца адмовіцца з траўня. Так, паводле Анатоля Гусарава, з 1 траўня «Белавія» спыняе свае рэйсы ў Парыж. Такім чынам, прамой паветранай сувязі паміж Мінскам і Парыжам пакуль не будзе. У Берлін, Вену і Стакгольм авіякампанія не ажыццяўляе палётаў ужо з пачатку красавіка, аднак з траўня палёты туды адновяцца на самалётах *АН-24* і *ЯК-40*. А на маршруце Мінск–Вена пасажыраў цяпер будуць абслугоўваць «Аўстрыйскія авіялініі».

У беларусаў самы папулярны маршрут у Маскву. Нехта туды лятае ў камандзіроўкі, а нехта, каб перасесці на самалёты мясцовых авіякампаніяў, якія прапануюць большую разнастайнасць рэйсаў у розныя часткі свету і за меншыя кошты. Аднак і еўрапейскі рэгіён для «Белавіі» не менш важны напрамак з прычыны значных аб'ёмаў перавозак і крыніцы валютных сродкаў. Каб кампенсаваць страты ад спынення палётаў на захад, «Белавія» пачынае пашырацца на ўсход. Замест Парыжу ці Берліну з траўня «шумныя» самалёты пачнуць лятаць у Санкт-Пецярбург, Тбілісі і Астану.

Як заявіў старшыня Дзяржаўнага камітэту па авіяцыі Фёдар Іваноў, турысты, якія вырашаць адпачыць летам на еўрапейскіх курортах, гэтыя праблемы з самалётамі на сабе не адчуюць. Ратуе сітуацыю толькі тое, што чартарныя перавозкі ўва ўсе краіны Еўразоны (за выключэннем Іспаніі) пакуль не забароненыя.

Наконт прычынаў увядзення «самалётных» захадаў з боку Еўрасаюзу ўсе чыноўнікі ад авіяцыі выказаліся аднназначна – экалогія тут не прычым, усё гэта выключна палітыка. Генеральны дырэктар «Белавіі» Анатоль Гусараў упэўнены, што «тут ідзе гаворка і пра палітыку, і пра эканоміку, бо пасля здарэнняў 11 верасня мінулага году ва ўсіх авіякампаніяў з'явіліся дадатковыя цяжкасці і вызвалілася вялікая колькасць самалётаў, асабліва вялікіх самалётаў, якія сёння прастойваюць. У Еўропе шэраг авіякампаніяў збанкрутавалі, і яны прапануюць сваю тэхніку на продаж, у тым ліку і нам». А генеральны дырэктар кампаніі «Трансавіяэкспарт» (займаецца грузавымі перавозкамі) Алег Рыжыкаў падкрэсліў, што гэта эканамічная барацьба паміж амерыканскім «Боінгам», еўрапейскім «Эйрбас» і расійскімі вытворцамі.

Між тым чакаецца, што ў 2006 годзе Еўропа зноў падвысіць патрабаванні да ўзроўню шумоў, і тады на ейную тэрыторыю не будуць допускацца нават *ТУ-154М*. З гэтага часу ўсе перавозкі мусяць ажыццяўляцца толькі на «Боінгах» і «Эйрбасах» новага пакалення, якія пачалі выпускаць не так даўно. Апошнія мадэлі расійскіх *ТУ* пакуль сярод такіх самалётаў не фігуруюць, але ёсць спадзеў, што пры выкананні пэўных канструктарскіх дапрацовак і іх уключаць у гэты спіс.

Каб праз чатыры гады зноў не патрапіць у цяперашняе непрыемнае становішча, беларускія авіякампаніі пачынаюць абнаўляць парк самалётаў. «Мы арыентуемся на айчынную, я маю на ўвазе, расійскую авіяцыю з самалётамі, якія адпавядаюць гэтым патрабаванням, – кажа старшыня Дзяржкамавія Фёдар Іваноў. – Гэта самалёты новага пакалення – *ТУ-204*, *ТУ-334* і іншыя, якія будуць выпускацца расійскімі прадпрыемствамі. На жаль, гэтыя самалёты «спазняюцца», і масавай іхняя вытворчасць будзе ў 2007-2010 гадах. Таму на гэты час і зараз мы будзем пераходзіць на ўзоры заходняй тэхнікі. Можа, нават да канца гэтага году ў нас з'явяцца самалёты тыпу «Боінг», якія сертыфікаваныя і допушчаныя на еўрапейскі кантынент». Мяркуецца, што па першым часе будуць закупленыя ў лізінг толькі ад аднаго да трох самалётаў.

**Алена ЛАБАНАВА**

## У арабскіх краінах жыве 280 млн. чалавек

Сукупнае насельніцтва арабскіх краін на пачатку XXI стагоддзя складае 279 мільёнаў, 43 працэнты з якіх маладзейшыя за 15 год. Пра гэта гаворыцца ў сумесным дакладзе Лігі арабскіх дзяржаваў, Арабскага фонду эканамічнага развіцця і Арганізацыі арабскіх краін – экспарцёраў нафты.

Гадавы прырост насельніцтва ў гэтых краінах – 2,3%, гэта адзін з самых высокіх паказчыкаў у свеце. Прычым, падкрэсліваецца ў дакуменце, агульны ВУП дзяржаваў арабскага рэгіёну склаў 709 млрд. даляраў. Доля здабыўной прамысловасці ў яго фармаванні вырасла з 19% у 1999 годзе да 26,3% у 2000 г.

Чвэртка ўсіх арабаў дасюль непісьменная, нягледзячы на тое, што 53% з іх жыве ў гарадах. Працаздольнае насельніцтва перавышае 180 млн. чалавек, 20% з якіх – беспрацоўныя. Узровень даходаў на душу насельніцтва вельмі адрозніваецца па розных краінах, але ў сярэднім не перавышае 500 даляраў у год.

**Рафаэль БІКБАЕЎ**

## Бушмены – ахвяры сафары



Бушмены Батсваны цяпер не змогуць вольна вандраваць па сваёй роднай пустыні Калахары. Бушмены, адны з апошніх на зямлі паляўнічых і збіральнікаў, спрадвеку жывуць у гармоніі з прыродай, беручы для сябе толькі самае неабходнае. Іх існаванне практычна ніяк не адбіваецца на навакольным асяроддзі, да чаго так імкнецца чалавецтва, якое непапраўна змяняе планету.

Улады Батсваны заявілі, што маюць намер выканаць рашэнне, прынятае ў жніўні мінулага году, аб спыненні дапамогі бушменам, якія жывуць у Калахары, адным з нешматлікіх куткоў дзікай прыроды, што яшчэ засталіся ў краіне.

Гэта азначае, што ў звыклых для бушменаў месцах пражывання яны не змогуць карыстацца жыццёва важнымі медыцынскімі паслугамі і навучаць дзяцей у школах. Задача ўраду Батсваны – вызваліць ад бушменаў, абарыгенаў пустыні Калахары, яе прывабныя для замежных турыстаў цэнтральныя раёны, каб ладзіць там сафары, што прыносяць валюту. Па словах бушменаў, урадавыя чыноўнікі часта змушаюць іх падпісваць дакументы аб згодзе на перасяленне, карыстаючыся непісьменнасцю гэтых дзяцей прыроды або ўжываючы пагрозы і хітрыкі.

Бушменаў ніколі не лічылі паўнавартасным народам ні да, ні пасля атрымання Батсванай незалежнасці. Больш за тое, іх існаванне стала нявыгадным з пункту погляду развіцця турызму, арыентаванага на заможных аматараў дзікай прыроды. Бушмены, якія традыцыйна займаюцца паляваннем і збіральніцтвам, забіваюць дзічыну і займаюць участкі, прыдатныя для будаўніцтва кемпінгаў і гатэляў.

**Павел МЫЛЬЦАЎ**

## Дзеці ў ЗША п'юць шмат алкаголю

Дзеці ў ЗША спажываюць амаль чвэрць усёй алкагольнай прадукцыі, што прадаецца ў краіне. Такая высонова робіцца ў дакладзе Нацыянальнага цэнтру па барацьбе з наркатычнай залежнасцю і злоўжываннем алкаголем пры Калумбійскім універсітэце. Што праўда, непаўналетнімі ў Амерыцы лічацца асобы, якія не дасягнулі 21 году. У нас такія «дзеткі» п'юць цалкам законна.

Высветлілася, што амаль траціна вучняў старэйшых класаў выпівае мінімум раз на месяц. 87% дарослых, якія выпіваюць, заявілі, што ўпершыню паспыталі спіртное яшчэ непаўналетнімі. Большасць школьнікаў, якія хаця б раз «паэксперыментавалі з алкаголем» у малодшых класах, працягваюць выпіваць і ў старэйшых. Больш за тое, школьнікі ў Амерыцы «не прызнаюць» падзелу па полавай прыкмеце, і ў выніку дзяўчаты, што п'юць, сустракаюцца гэтак жа часта, як і хлопцы. Паказальна і тое, што выпіўка па-ранейшаму застаецца на першым месцы сярод заганных звычак амерыканскіх школьнікаў: 81% вучняў старэйшых класаў ужываюць алкаголь хаця б раз-пораз, 70% паляць цыгарэты, а 47% хоць аднойчы пакаштавалі марыхуаны.

Спецыялісты цэнтру лічаць, што дзеля поспеху ў барацьбе з дзіцячым алкагалізмам трэба выконваць некалькі простых правілаў: збірацца ўсёй сям'ёй на вячэру за адзін стол, цікавіцца, што дзеці глядзяць па тэлевізары, кантраляваць сайты, якія яны наведваюць у інтэрнэце, ведаць, якую музыку яны слухаюць; ведаць імёны сяброў сваіх дзяцей і ведаць, дзе яны ў дадзены момант знаходзяцца; праводзіць выразную палітыку непрыняцця алкаголю ў сям'і і ні ў якім выпадку не паказваць дзецям, што алкаголь расслабляе. Апрача гэтага, Нацыянальны цэнтр рэкамендуе не ставіцца да ўжывання дзецьмі алкаголю як да нейкай падлеткавай фазы развіцця, якая вось-вось міне.

**Аляксей АГУРЭЕЎ**

# Рызыкуе той, хто мае аўто

***Як бы ні павялічвалася колькасць прыватных аўтамабіляў, машыну па-ранейшаму шмат хто ўспрымае як выдатны аб'ект для крадзяжу***

### На кожную машыну ёсць свой злодзей

Сярод скрадзеных аўтамабіляў лідзіруюць «Фальксвагены», «Аўдзі», «Опелі», «Мерседэсы» новых мадэляў і старыя «Жыгулі». Першыя крадуць, каб потым перапрадаць найперш у Расію. Другія – на танныя запчасткі. Зрэшты, старыя іншамаркі таксама крадуць на запчасткі.

Крадзяжамі аўтамабіляў дзеля разукамплектацыі займаюцца ўстойлівыя групы. Там у кожнага свой абавязак: нехта сочыць за гаспадаром і машынай, нехта скрадае. Потым за некалькі гадзін «умельцы» разбіраюць аўтамабіль да апошняга вінціка. І ўжо іншыя людзі прадаюць на рынках запчасткі. Дапамагаюць у гэтым «бізнесе» і абвесткі ў рэкламных газетах. Добрасумленны чалавек размяшчае абвестку пра патрэбу ў той ці іншай дэталі. Калі па названым нумары тэлефануе чалавек і прапаноўвае неабходную дэталь, наўрад ці хто задумваецца пра яе паходжанне. Дарэчы, на аўтазапчасткі не распаўсюджваецца прынцып: крадзенае – таннейшае. Усе разумеюць, што дэталь купяць па кошце, які складзецца, бо без яе машына ператвараецца ў кучу металу. Разукамплектаванне аўтамабіляў, кража аўтамагнітол – «фірмовае» злачынства падлеткаў. Звычайна яны прапаноўваюць сваю здабычу таксістам.

Асаблівым бандыцкім шчасцем лічыцца скрасці аўтамабіль з транзітным нумарам – ён яшчэ не зарэгістраваны, таму лягчэй падрабіць дакументы.

### Крадзеж машыны – гэта не дураслівасць

Машыны скрадаюць, каб проста пакатацца або каб скарыстаць для іншага злачынства. Марку машыны ў такіх выпадках выбіраюць залежна ад «вытворчай неабходнасці».

Крымінальны кодэкс за ўгон аўтамабіля без мэты крадзяжу прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін ад 7 да 10 год. Калі ж пры ўгоне аўтамабіля мелі месца нейкія гвалтоўныя дзеянні ці толькі іх пагроза, то «свеціць» ад 10 да 15 год. У Крымінальным кодэксе няма асобнага артыкулу, які рэгламентаваў бы пакаранне за крадзеж толькі аўтамабіля. Найніжэйшая планка пакарання за крадзеж чаго заўгодна, у тым ліку аўтамабіля, ніжэйшая, чым за ўгон. Толькі за паўторны крадзеж аўтамабіля можна «сесці» на пяць год. За крадзеж машыны, кошт якой у 250 разоў перавышае мінімальную заробатную плату, прадугледжана пазбаўленне волі на тэрмін ад 5 да 10 год з канфіскацыяй маёмасці ці без яе. А калі кошт аўтамабіля перавышае 1 000 «мінімалак», то тэрмін павялічваецца ад 7 да 10 год плюс канфіскацыя маёмасці.

### Бандыцкі інтэрнацыянал

Крымінальны аўтабізнес па ступені арганізаванасці і ўзроўні прыбытку знаходзіцца на трэцім месцы пасля гандлю зброяй і наркотыкамі. Таму ва ўсім свеце машыны крадуць інтэрнацыянальныя «брыгады».

У тутэйшых бандытаў наладжана «супрацоўніцтва», у прыватнасці, з немцамі. На практыцы гэта выглядае так. Нашы зладзеі дамаўляюцца з нядобрасумленным немцкім грамадзянінам, што «купяць» яго машыну за пэўную суму. Ён заявіць у паліцыю аб крадзяжы і атрымае страхоўку. У Германіі сума страхоўкі за скрадзены аўтамабіль складае прыкладна 90% ад яго кошту.

Злачынцы прыганяюць машыну ў Беларусь, робяць адпаведныя дакументы, перабіваюць нумар кузава. Потым пераганяюць аўтамабіль на неабсяжныя расійскія прасторы і там прадаюць. Тады паведамляюць замежнаму «партнёру», што той можа звяртацца па страхоўку.

Інтэрпол тым часам абвяшчае машыну ў вышук. Але нават калі яе знойдуць у якім-небудзе Екацярынбургу, то высвятляецца, што ехаць па яе з Германіі нявыгадна. Так кожны застаецца пры сваім інтарэсе: пакупнік – пры машыне, замежнік – пры страхоўцы і грашах за «скрадзены» аўтамабіль, злачынцы – пры барышах.

Калі аўтамабіль ставіцца на ўлік, яго «радавод» правяраюць, але не заўсёды з першага разу высвятляецца (не будзем аналізаваць – чаму), што ён крадзены. А калі і высвятляецца, але пакупнік у судзе можа даказаць, што яму невядома пра «цёмнае» мінулае аўтамабіля, то яго і не канфіскуюць. Толькі паводле рашэння суду машына стане «невыязною»: за межамі Беларусі яе канфіскуюць як абвешчаную ў вышук Інтэрполам. Абываецеля такі стан рэчаў цешыць, але ў Еўропе Беларусь набывае славу краіны, у якой находзяць прытулак крадзеныя аўтамабілі. У той жа час, калі машыну грамадзяніна Беларусі знойдуць на тэрыторыі Расіі, то яна можа вярнуцца да гаспадара. Афармляецца гэтая працэдура праз Генеральную пракуратуру Расіі.

### Даверанасць – язда па крывой дарозе

Буйныя маёмасныя здзелкі, а да такіх, без сумневу, адносіцца продаж і набыццё аўтамабіля, знаходзяцца пад пільным вокам падатковых органаў. Калі грамадзянін на працягу году прадаў больш чым адзін аўтамабіль, то з даходаў ад другога і наступных мусіць заплаціць падаходны падатак. Але пакуль што цяжка сустрэць чалавека, у якога «самой прыродай закладзена» плаціць падаткі ў поўным аб'ёме. А продаж аўтамабіля па даверанасці і служыць спосабам утойвання даходаў. Спосаб не найлепшы. Напрыклад, чалавек, які выпісаў даверанасць, памёр. Дакумент умомант становіцца несапраўдным, і нашчадкі атрымліваюць права прэтэндаваць на аўтамабіль.

Крыміналу вакол машын, прададзеных па даверанасці, шмат. Толькі з мінулага году натарыусы, афармляючы даверанасць на аўтамабіль, пачалі патрабаваць дакументы абодвух удзельнікаў здзелкі. Да гэтага пакупнік мог назвацца кім заўгодна. Але калі на аўтамабілі здзяйснялася злачынства, то міліцыя найперш звярталася да ўладальніка аўтамабіля, а ўжо потым пачынала шукаць уладальніка даверанасці. Часцей за ўсё гэта было як шукаць ветру ў полі.

### Дапамажы сабе сам

Крадуць аўтамабілі адусюль: з двароў, платных стаянак, прыватных гаражоў і гаражных кааператываў пад аховаю. Найноўшая тэхніка дазваляе скрасці машыну, абсталяваную самай сучаснай сігналізацыяй. Раскрыць злачынства ўдаецца толькі па гарачых слядах. Калі адсутнасць аўтамабіля хутка заўважаць і адразу заявяць у міліцыю, то ёсць шанс, што яго знойдуць. Згодна з міліцэйскай статыстыкай, толькі каля 40% такіх злачынстваў раскрываецца. Пры гэтым, калі скрадзены аўтамабіль вярнулі гаспадару, але злачынцу не знайшлі, то па той жа статыстыцы злачынства лічыцца нераскрытым. Калі з моманту прапажы аўтамабіля прайшло некалькі гадзін, то, магчыма, злачынцы ўжо пачалі прадаваць запчасткі ад яго.

Зберагчы аўтамабіль дапамагае добрая сігналізацыя, але яе не раяць ставіць у тым жа салоне, дзе аўтамабіль набываўся. Дапамагаюць і блакіравальныя прыстасаванні, якія ставяць на руль, педалі, каробку перадач. А вось прысутнасць у салоне машыны сабак неагрэсіўных парод і тым болей маленькіх дзяцей – для злачынцаў не перашкода.

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**



Фота IREX/ProMedia

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1144 Нумар падпісаны ў друк 11/04/2002 (12:00) Наклад – 7.740